*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
17
ЛІПЕНЯ
1992 г.
№ 29 (3647)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



Гэты аркуш з графічнага цыкла «Адлюстраванне» выпускніка Беларускай акадэміі мастацтваў Аляксея ШАЛІМЫ мае назоў «Маці Боская». У пэўнай ступені гэта твор сапраўды адлюстроўвае змены, што адбыліся ў свядомасці людзей за апошнія некалькі год.

Больш падрабязна аб выставе, дзе экспанаваліся дыпломныя работы сёлетняга выпуска акадэміі,—на 11-й старонцы, у нататках «Другі раз у Палацы мастацтваў».

Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

На мінулым тыдні ў Хельсінкі сустрэліся кіраўнікі дзяржаў, якія з'яўляюцца ўдзельніцамі Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Апошнім часам, трэба сказаць, гэтая назва становіцца ўсё больш умоўнай. Акрамя ЗША і Канады, да НБСЕ цяпер далучыліся сярэднеазіяцкія рэспублікі былога Саюза. Але гэта знешні бок справы. Больш істотным уяўляецца прыняцце новай рэдакцыі Хельсінскага заключнага акта, якая азначае сур'ёзныя карэктывы некаторых міжнародных прынцыпаў. Цяпер большы акцэнт робіцца не на «неўмяшанне ва ўнутраныя справы» дзяржаў, а на прынцып, які можна назваць прынцыпам «калектыўнага сумлення». У гэтым рэчышчы можна разглядаць і імкненне кіраўніцтва Беларусі стаць пасрэднікам ва ўрэгуляванні канфлікту ў Прыднястроўі, іншыя знешнепалітычныя ініцыятывы. Але ж поспех у гэтай справе залежыць, зразумела, не толькі ад нашай рэспублікі...

**9 ЛІПЕНЯ**

Прэм'ер-міністр Беларусі В. Кебіч, выступаючы перад кіраўнікамі выканкамаў мясцовых Саветаў, абяцаў, што крэдытная палітыка ўрада дапаможа стабілізаваць эканоміку яшчэ да канца гэтага года. Разам з тым, падкрэсліў ён, «дзяржава—не дойная карова», таму прадпрыемствам трэба больш разлічваць на ўласныя сілы. Абгрунтавалася і неабходнасць захавання жорсткай падаткавай палітыкі, якую прэм'ер параўнаў з фінскай сістэмай падаткаў.

**10 ЛІПЕНЯ**

Беларусь афіцыйна ўступіла ў члены Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка. Статуты гэтых арганізацый падпісаў у Вашынгтоне віцэ-прэм'ер Рэспублікі Беларусь М. Мясніковіч.

У Мінску, на плошчы Перамогі, адбылася ўрачыстая цырымонія выпуску навучэнцаў Міліцэйскай акадэміі. У прысутнасці кіраўніка беларускага ўрада дыпломы атрымалі больш за 200 лейтэнантаў-«акадэмікаў», многія з якіх прайшлі «школу» ў Афганістане і Нагорным Карабаху.

**11 ЛІПЕНЯ**

Транспартны рух на адной з вуліц Мінска на нейкі час аказаўся перакрыты раз'юшанымі пакупнікамі, якія не маглі «атаварыць» талоны на цукар. «Цукровы бунт» успыхнуў, вядома, не ад салодкага жыцця. Сезон нарыхтовак у разгары, а цукру па фіксаваных цэнах не хапае. Што ж датычыць свабодных цэн, па якіх гэты прадукт можна пакуль купіць свабодна, дык далёка не усім яны па кішэні.

Прадстаўнікі Незалежнага прафсаюза гарнякоў з Салігорска прынялі ўдзел у мітынгу ў Маскве разам са сваімі калегамі з Казахстана, Расіі і Украіны. Мітынг быў прысвечаны трэцяй гадавіне пачатку шахцёрскіх страйкаў у СССР. Гарнякі заклікалі працоўных незалежных дзяржаў самім праводзіць рэформу на сваіх прадпрыемствах, не чакаючы «падачак» зверху.

**12 ЛІПЕНЯ**

Пачаўся візіт на Беларусь прэзідэнта Румыніі І. Іліеску. У ходзе яго Іліеску правёў перамовы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевічам, Старшынёй Савета Міністраў РБ В. Кебічам, сустрэўся з беларускімі парламентарыямі. Былі падпісаны сумесная дэкларацыя, іншыя дамоўленасці.

**13 ЛІПЕНЯ**

Прэм'ер-міністр Беларусі В. Кебіч вылецеў у Парыж па запрашэнні прэзідэнта Францыі Ф. Мітэрана на святкаванне нацыянальнага свята—Дня ўзяцця Бастыліі. У ходзе замежнай паездкі В. Кебіча запланаваны таксама перамовы прэм'ера з кіраўніцтвам Дойчэбанка ў Германіі.

**14 ЛІПЕНЯ**

З выпадку нацыянальнага свята Французскай Рэспублікі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь К. Жаліф даў прыём.

У вёсцы Гярвяты на Астравеччыне адбылася рабочая сустрэча кіраўнікоў беларускага і літоўскага парламентаў С. Шушкевіча і В. Ландсбергіса. Як паведамляецца, сярод тэм на перамовах абмяркоўваліся праблемы нацыянальных меншасцей—беларусаў у Літве і летувісаў на Беларусі.

**15 ЛІПЕНЯ**

У пятнаццаць разоў павялічылася сума так званага мэтавага збору для аўтамабілістаў, якія перасякаюць дзяржаўную граніцу на КПП «Брузгі» каля Гародні. Новыя стаўкі пошліны—ад 150 да 500 рублёў—увёў Гародзенскі аблвыканкам. Ад збору вызваляюцца толькі пацярпеўшыя ад Чарнобыля, студэнты, якія накіроўваюцца за мяжу ў парадку культурнага абмену...

# «У палітыцы патрэбен рэалізм»

## —заявіў прэзідэнт Румыніі І. ІЛІЕСКУ, падчас свайго знаходжання ў Мінску.

Ля ўвахода ў былы Дом палітасветы, дзе мелася адбыцца прэс-канферэнцыя Іліеску, стаялі на варце зухаватыя хлопцы з аўтаматамі. Маскіравальнага колеру форма, цёмныя берэты з бел-чырвона-белымі нашыўкамі, на рукаве — эмблема: «Рэспубліка Беларусь». Ва ўсім гэтым адчувалася не толькі адзнака імкнення гаспадароў максімальна забяспечыць бяспеку, але й знак павагі да замежных гасцей. І, канечне ж, самапавагі...

Румынія прызнала незалежнасць Беларусі 20 снежня мінулага года. Праз некалькі тыдняў былі ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Румыніяй. Кіраўнікі дзяржаў за апошні час неаднойчы сустракаліся на розных міжнародных канферэнцыях і нарадах. Пра гэта І. Іліеску сказаў ва ўступным слове на прэс-канферэнцыі па выніках свайго візіту. І дадаў, што высока іх ацэньвае. Падпісаная ў Мінску Дэкларацыя аб узаемаразуменні і супрацоўніцтве паміж дзвюма дзяржавамі, паводле слоў прэзідэнта, павінна стаць асновай для будучага двухбаковага дагавора. Падпісаць яго мяркуецца ў ходзе візіту С. Шушкевіча ў Бухарэст па запрашэнні румынскага кіраўніцтва пазней у гэтым годзе.

Пры гэтым, падкрэсліў І. Іліеску, візіт не ставіцца ў залежнасць ад вынікаў маючых адбыцца ў верасні прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў у Румыніі. Узаемаадносіны паміж дзяржавамі ставяцца вышэй партыйных інтарэсаў і ўнутрыпалітычнай барацьбы.

Агульных жа інтарэсаў у абедзвюх краін нямала. Асабліва зацікаўлены Румынія і Беларусь ва ўстанаўленні прамых сувязей паміж прадпрыемствамі, міжнароднай кааперацыі і ўзмацненні гандлёвага абмену. Характэрна, што міністр гандлю Румыніі, які быў у складзе афіцыйнай дэлегацыі, пасля адлёту прэзідэнта застаўся яшчэ на некалькі дзён у Мінску, каб вырашыць некаторыя канкрэтныя пытанні супрацоўніцтва.

Аднак большая частка пытанняў журналістаў тычылася, натуральна, не эканомікі, а палітыкі. Іх цікавіла найперш ацэнка сітуацыі ў Прыднястроўі з боку румынскага прэзідэнта, а таксама яго стаўленне да пазіцыі Беларусі ў гэтым пытанні.



У час прэс-канферэнцыі. Фота У. ПАНАДЫ.

Калі падсумоўваць выказванні І. Іліеску ў ходзе прэс-канферэнцыі, іх можна звесці да наступнага. Канфлікт у Прыднястроўі (па-румынску — Трансністрыі), на думку прэзідэнта, не з'яўляецца этнічным. Сярод мясцовых жыхароў 27 працэнтаў украінцаў і 23 працэнты рускіх. Доля малдаван (румынаў) у складзе насельніцтва Малдовы ў цэлым складае каля 65 працэнтаў — не нашмат больш, чым у Прыднястроўі.

На чатырохбаковай сустрэчы ў Стамбуле (з удзелам прэзідэнтаў Расіі, Румыніі, Малдовы і Украіны), нагадаў І. Іліеску, было дасягнута пагадненне, заснаванае на двух фундаментальных прынцыпах. Першы — гэта безумоўная павага да права канстытуцыйных органаў Малдовы вырашаць унутраныя дзяржаўныя праблемы, у тым ліку звязаныя са статусам тэрыторый. І другі — неабходнасць урэгулявання канфліктаў палітычнымі метадамі, а не сілай.

У гэтай сувязі прэзідэнт Румыніі вельмі станоўча ацаніў ўзважаную, як ён выказаўся, палітыку Беларусі, карэктную заяву беларускага парламента і асабліва — гатоўнасць кіраўніцтва рэспублікі выступіць пасрэднікам ва ўрэгуляванні канфлікту.

Дэстабілізуючым фактарам І. Іліеску назваў прысутнасць 14-й расійскай арміі ў Малдове. Ён катэгарычна абверг сцвярджэнні камандуючага арміяй генерала Лебедзя аб тым, што Румынія нібыта пастаўляе Малдове танкі, іншыя цяжкія ўзбраенні. Пры гэтым Іліеску прызнаў, што ў адказ на афіцыйную просьбу законнага кіраўніцтва Малдовы, якая стварае зараз сваё нацыянальнае войска, Румынія прадала ёй пэўную колькасць абарончай зброі — у прыватнасці, бронетэхнікі. У той жа час, па словах румынскага кіраўніка, працягваецца масіраваная пастаўка баявой тэхнікі і зброі 14-й арміі незаконным вайсковым фарміраванням у Прыднястроўі.

І. Іліеску зрабіў таксама гісторыка-юрыдычны экскурс у мінулае, з якога вынікала, што пытанне аб уз'яднанні Румыніі і Малдовы з пункту погляду міжнароднага права заканамернае і ў перспектыве можа разглядацца. Але, з другога боку, існуюць Хельсінскія пагадненні, Парыжская хартыя, у якіх замацаваны прынцып недатыкальнасці пасляваенных граніц паміж дзяржавамі ў Еўропе. У палітыцы патрэбен рэалізм — падкрэсліў І. Іліеску. Таму цяперашняе кіраўніцтва Румыніі не ставіць пытання аб іх пераглядзе.

**Віталь ТАРАС.**

АДГАЛОСКІ

# ЦІ ПАЧУЮЦЬ КРЫК ДУШЫ?

На пачатку ліпеня ў «Народнай газеце» быў надрукаваны адкрыты ліст да Старшыні Савета Міністраў РБ за подпісамі вядомых дзеячаў беларускай культуры: В. Быкава, А. Вярцінскага, Ю. Карачуна, Л. Шчамялёва, І. Чыгрынава, А. Марачкіна, У. Басальгі, Н. Гілевіча, Б. Сачанкі, В. Шаранговіча, А. Мальдзіса.

Нагодай для гэтай акцыі стала падпісанне 15 мая ў Ташкенце пагаднення кіраўнікоў урадаў СНД аб супрацоўніцтве ў галіне культуры. Аўтараў адкрытага ліста непакоіць тое, што шэраг пазіцый прыгаданага дакумента «можна лічыць шкоднымі, шкоднымі не толькі для Беларусі (як і для ўсіх іншых краін, яго падпісаўшых), але (...) для ўсяго свету».

Пагадненне, пад якім стаіць і подпіс В. Кебіча, можа быць выкарыстана расійскімі шавіністамі для замацавання існуючага стану, калі шматлікія культурныя і гістарычныя каштоўнасці народаў былога СССР назаўсёды застануцца ў музеях і сховішчах, што перайшлі пад юрысдыкцыю Расіі.

Замест сур'ёзнага абмеркавання праблем вяртання гістарычных каштоўнасцяў іх уладальнікам — народам суверэнных дзяржаў — складальнікі тэксту пагаднення «намагаюцца ўцiснуць адносіны ў галіне культуры (...) у рамкі фармальных надуманых праграм».

«Пры такім падыходзе захоча, напрыклад, Беларусь пацікавіцца звесткамі аб сваіх каштоўнасцях, што знаходзяцца ў былых саюзных сховішчах на тэрыторыі іншай дзяржавы — удзельніцы пагаднення, няхай складзе з ёю сумесную праграму, выдзеліць на долевай аснове сродкі на ўтрыманне якога-небудзь «часовага» органа кантролю або каардынацыі, і толькі тады ёй будзе прадастаўлена права задаць сваё пытанне».

Калі браць да ўвагі, што «наша агульная маёмасць — былыя фонды саюзных сховішчаў гісторыка-культурных каштоўнасцяў — фарміраваліся такім чынам, што спецыялісты ніводнай з былых саюзных рэспублік не маглі мець нават вельмі адноснага ўяўлення аб тым, якія каштоўнасці, што паходзяць з іх бацькаўшчыны, там знаходзяцца» — прапанаваная формула супрацоўніцтва выглядае абсурднай.

Дзеячы культуры Беларусі прапануюць В. Кебічу «зрабіць неабходныя захады да скасавання дадзенага пагаднення і вынясення замест яго на разгляд кіраўнікоў урадаў СНД падрыхтаванага ў Беларусі праекта пагаднення аб стварэнні міжнароднай часовай камісіі па вырашэнні праблем уласнасці на гісторыка-культурныя каштоўнасці, што сабраны ў музеях, бібліятэках, архівах і іншых сховішчах былога Саюза ССР».

Такі вось ліст... Ці захоча прэм'ер прыслухацца да крыку душы дзеячаў «нематэрыяльнай сферы»? Тым болей, што кіраўніцтва рэспублікі зараз занята праблемамі выключна эканамічнага характару.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

# ТАМУ МЫ І ЛЮБІМ ОРШУ...

Вязынка — гэта Янка Купала... Мікалаеўшчына—Якуб Колас... Прыгадаем Малую Багацькаўку — і адразу згадваецца імя Максіма Гарэцкага... Ну, а Орша?

Вядома ж, радзіма Уладзіміра Караткевіча! Тут пачынальнік нашай гістарычнай літаратуры пражыў ці не самыя лепшыя свае гады — маленства і юнацтва. Тут ён скончыў сярэднюю школу, тут у 1956—1958 гадах настаўнічаў у адной са школ. Цяпер жа ён вярнуўся сюды назаўсёды.

У апошнюю суботу чэрвеня ў прыдняпроўскім парку Оршы адбылося адкрыццё помніка знакамітаму земляку. Яно было прымеркавана да святкавання 925-годдзя з дня заснавання горада. Што ж, супадзенне невыпадковае. Хіба можна сёння ўявіць сабе гісторыю Оршы без імені У. Караткевіча?!

Такой думкі прытрымліваецца і аўтар помніка (архітэктар М. Сморчык) малады скульптар І. Голубеў:

— Як бы мы ні паважалі іншых знакамітых людзей, якія нарадзіліся тут, Орша перш за ўсё — гэта Уладзімір Караткевіч. Орша — яго калыска, выток, пачатак усіх пачаткаў. Гэта і падказала ідэю помніка. Месца для яго выбрана таксама невыпадкова. Тут у свой час знаходзіўся будынак, у якім Караткевіч заканчваў дзевяты і дзесяты класы. Адсюль ён пайшоў у вялікае жыццё. Мне і хацелася падкрэсліць гэтую повязь пісьменніка з яго вытокамі. Праз зруб дома, што сімвалізуе сабой пачатак яго жыццёвага шляху. Праз верш Караткевіча, радкі якога накрэслены на спецыяльнай пліце:

**Тут нарадзілася воля,**
**Думкі, жаданні, імкненні...**
**Тут я стаў сынам краіны,**
**Абпален яе агнём...**
**Таму і люблю я Оршу...**
**Першым сваім каханнем...**
**Якое не знікне пэўна**
**Нават з маім жыццём...**

Сапраўды, у задуме помніка прысутнічае жаданне ўбачыць, адчуць і перадаць свет У. Караткевіча, падкрэсліць рамантычную акрыленасць і ўзнёсласць яго творчасці. У кампазіцыю скульптуры арганічна ўплятаюцца вобразы рамана «Чорны замак Альшанскі», аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». Уверсе ж — бусел, што сімвалізуе сабой Белую Русь. А гэта — зваротак яшчэ да аднаго твора У. Караткевіча, да яго «Зямлі пад белымі крыламі»...

На ўрачыстым адкрыцці помніка загадчыца аддзела культуры Аршанскага гарвыканкома З. Сіднякова, якая падзякавала ўсім, хто меў дачыненне да з'яўлення гэтага помніка выдатнаму сыну Бацькаўшчыны — аўтарам, сястры пісьменніка Н. Кучкоўскай за карысныя парады, Аршанскаму гарвыканкому, які ўзяў на сябе матэрыяльныя затраты, звязаныя з адліццём і ўстаноўкай помніка.

**НАШ КАР.**



Помнік Уладзіміру Караткевічу ў Оршы.



Выступае Рыгор БАРАДУЛІН.

Фота А. АСІПОВІЧА.

**РЭПЛІКА**

## УШАНАВАЛІ...

**У Нясвіжы на базе мясцовага педагагічнага вучылішча была праведзена канферэнцыя, прысвечаная 110-й гадавіне з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Я. Купалы і Я. Коласа.**

**Настрой настаўнікаў і навучэнцаў педвучылішча з самага пачатку сапсаваў вядучы, пачаўшы гутарку... на рускай мове. Дарэчы, кіраўнікі раёна і дырэктар педвучылішча, якія сядзелі ў прэзідыуме, не зрабілі вядучаму заўвагі. І толькі настойлівыя патрабаванні слухачоў змусілі яго перайсці на беларускую мову.**

**Знайшлася яшчэ адна асоба — дацэнт, жанчына з Магілёўскага педінстытута імя А. А. Куляшова. Яна таксама прывезла з сабой выступленне пра беларускіх паэтаў... на рускай мове. Сорамна было слухаць, калі яна перакручана вымаўляла імя Якуба Коласа, называючы яго Ікубам.**

**На жаль, не надта цікава выступілі і навукоўцы з Мінска, якія прыехалі, дарэчы, са значным спазненнем.**

**Пра названую канферэнцыю хочацца сказаць: «Шмат шуму з нічога» ці «З вялікай хмары малы дождж». А «хмара» сапраўды была вялікая, калі ўлічыць, што на тытульным лісце запрашальнага білета і праграмы надрукаваны яго арганізатары. Гэта — Міністэрства адукацыі РБ, Педагагічнае таварыства Беларусі, Беларускі навукова-даследчы інстытут і яшчэ чатыры «ніты».**

**Вось і думалася пасля: а ці трэба было везці ў Нясвіж настаўнікаў з усёй рэспублікі?**

**Мне асабіста найбольш спадабалася выступленне М. Чабатарэвіч, загадчыцы экскурсійнага сектара Літаратурнага музея Янкі Купалы на тэму «Вобраз жанчыны-маці ў творчасці Янкі Купалы і выхаванне паважлівых адносін да яе». Што датычыць навучэнцаў мясцовага педвучылішча, то яны атрымалі добры ўрок абыякавых адносін да беларускай мовы з боку прадстаўнікоў раёна і педвучылішча.**

**М. ВАЛЬКО,**
**старшыня мясцовай суполкі ТБМ.**

г. Нясвіж.

**ХРОНІКА АДРАДЖЭННЯ**

## Далучэнне да мінулага

У Віцебскім абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці адбылася выстава дзіцячай творчасці. На ёй шырока прадстаўлены творы дзятвы самага рознага ўзросту з Віцебска. Большую частку экспазіцыі складаюць прадметы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, якія выкананы ў беларускіх народных традыцыях. Тут прадстаўлены ганчарства й ткацтва, нацыянальны касцюм, разьба ды вышыўка, вырабы з саломкі і г. д. Нацыянальна-адраджэнская тэматыка ярка бачна ў жывапісе і графіцы. Народныя абрадавыя святы, напрыклад, малююць юныя творцы з СШ № 25. Вучні гэтай жа школы даследуюць дойлідства Бацькаўшчыны праз мастацкае асэнсаванне яго ў сваіх карцінах. Сучасныя віды мастацтва ўдала спалучаюцца з нацыянальным у папера-пластыцы (СШ № 25) і батыках дзіцячай мастацкай школы, у працах дзяцей з іншых навучальных устаноў.

**Юрась СЦЯПАНАЎ.**

## Вяртаючыся да сумнай даты

Напярэдадні 50-годдзя з дня смерці Янкі Купалы ў Радашковіцкім касцёле, дзе некалі быў ахрышчаны маленькі Янка, адбылося жалобнае набажэнства па душы паэта. Гэта, напэўна, першае такое набажэнства з дня смерці Купалы. Як вядома, па самагубцах набажэнства не адпраўляецца. Таму гэтая служба — знак прызнання рэлігіяй **забойства** паэта. Набажэнства на беларускай мове правілі айцец Міхаіл з Менска і святар Радашковіцкага касцёла айцец Эдмонд.

**Мікола ЛІННІК,**
**намеснік старшыні Радашковіцкага пассавета, сябра ТБМ і БНФ.**

# НАБАЛЕЛАЕ

### Ліст шаснаццацігадовага беларуса

Вітаю вас, лімаўцы! Вырашыў пазнаёміцца з вашым выданнем і не пашкадаваў. У сваіх публікацыях вы падымаеце актуальныя пытанні, дапамагаеце чытачу больш аб'ектыўна зразумець тыя ці іншыя падзеі і з'явы. Асабліва хвалюе мяне нацыянальнае пытанне. Два гады назад я нават не задумваўся, хто я (вядома ж, рускі), але паступова пад уздзеяннем новага ў жыцці нашага грамадства ў маёй свядомасці пачаўся пераварот. Тады для мяне, 14—15-гадовага хлапчука, нялёгка было разабрацца сярод патокаў ілжы і маны, аднак і ў бочцы дзёгцю траплялася лыжка мёду, і паступова я вызваляўся ад хлусні, што раней убілі ў маю галаву, пачаў асэнсоўваць бачанае і чутае, выпрацоўваць свой светапогляд. Канчаткова павязка з маіх вачэй упала летам — восенню 1991 года. Я адчуў гонар за тое, што належу да беларускай нацыі, якая пасля шматвяковага рабства, панавання чужынцаў здолела стварыць выдатную культуру, дала свету шмат вялікіх вучоных (аб гэтым я даведаўся зусім нядаўна) і пасля 70-гадовага духоўнага і фізічнага генацыду знайшла ў сабе сілы зноў пачаць нацыянальнае Адраджэнне.

За мае цяперашнія погляды КДБ эпохі «развитого социализма» мог бы з поўным правам аб'явіць мяне нацдэмам. Але ж нацыяналізм зараз патрэбен! Патрэбен не дзеля яго самога, а каб выратаваць нацыю, яе самабытнасць і непаўторнасць. Гэты нацыяналізм павінен накіроўвацца не супраць якога-небудзь народа, а супраць тых груповак людзей, што патрабажаюць інтарэсам і незалежнасці Беларусі. Сярод маіх сяброў ёсць рускія і ўкраінцы, і яны большыя патрыёты Беларусі, чым некаторыя этнічныя «беларусы», бо гэтыя рускія і ўкраінцы — беларусы ў душы і свядомасці. Я чытаў вашу газету ў парку па-над Сожам (які так забруджаны, што, паказаўшы на яго, можна даць адказ тым, хто лямантуе аб «достижениях развитого социализма») і нялёгкія думкі апаноўвалі мяне аб лёсе маёй Бацькаўшчыны і майго народа. Вельмі вялікае злачынства, калі наўмысна забіваецца чалавек, а што казаць, калі забіваецца, душыцца цэлы народ? За час камунізму беларускі народ быў амаль што знішчаны, самабытны, працавіты, непаўторны народ быў ператвораны (за рэдкім выключэннем) у шэры натоўп запраграмаваных робатаў, і цяпер, калі пачаліся адваротныя працэсы вяртання да Чалавечай годнасці, шмат каму гэта не па густу. Найперш тым, хто кіраваў гэтым натоўпам і за кошт якога сапраўды жыў у «развитом социализме»! Кажуць, што адметнай рысай беларусаў з'яўляецца іх сціпласць. Так, у пэўнай меры гэта добрая рыса, але калі яна ператвараецца ў рабскую пакорлівасць быдла, якое вядуць на бойню, то тут трэба задумацца, чаму некаторыя націскаюць на сціпласць беларусаў. Трэба абуджаць беларускі народ ад нацыянальнага нігілізму, нацыянальная ідэя павінна стаць сродкам пабудовы ўласнага дому і заможнага гаспадарства.

Мне ўспамінаецца адзін выпадак з майго маленства. Сам я з Палесся, да шасці год выхоўваўся ў вёсцы ў бабулі і ведаў толькі родную мову, бо чуў яе навокал. І вось я пераехаў у горад. У двары жыла жанчына, якая намагалася быць інтэлігентнай, у яе быў сын маіх гадоў. Аднойчы яна пачула, як я тады размаўляў, зморшчылася і загадала сыну больш не гуляць са мною... Я нагадаў гэта таму, што і зараз існуе нямала такіх «інтэлігентных» людзей, якія цураюцца і нават ганьбяць мову і культуру народа, які корміць іх.

Цяпер аб нацыянальнай палітыцы нашага ўрада. Яна выклікае ў мяне рэзкую крытыку і абурэнне. Канешне, у ёй ёсць добрыя бакі, але калі прадстаўнікі вышэйшай улады нашай дзяржавы ходзяць на задніх лапках перад «старэйшай сястрою» і кожны раз азіраюцца на яе, ці ж дагадзілі, то ў мяне няма слоў. У нашай рэспубліцы працуюць ажно два расійскія тэлеканалы, а ці глядзяць Беларускае тэлебачанне беларусы на Віленшчыне, Беласточчыне? Пра гэта павінен думаць урад, а не хто-небудзь збоку. Я не ўскладаю надзей на цяперашні Вярхоўны Савет і ўрад, таму агітаваў сваіх родзічаў паставіць свой подпіс у падтрымку рэферэндуму. К моманту яго правядзення трэба растлумачыць усім людзям мэту гэтай акцыі.

Хацеў бы перадаць вялікую падзяку Васілю Быкаву, Нілу Гілевічу, іншым беларускім пісьменнікам за іх цяжкую працу дзеля нашай адзінай Бацькаўшчыны.

**Яўген КАСЦЮШКА.**

г. Гомель.

# Беларускае замежжа: жывыя галасы

Хоць марудна і ў многім стыхійна, але таямнічае яшчэ тры-чатыры гады назад паняцце—беларускае замежжа—пакрысе набывае канкрэтны сэнс і змест. Паўстаюць з нябыту, вяртаюцца з забыцця імёны і постаці нашых суродзічаў, якія па волі лёсу і жыццёвых абставін апынуліся далёка за межамі Бацькаўшчыны. Аднаўляецца гістарычная праўда і справядлівасць, мяняецца палітыка дзяржавы ў адносінах да сваіх былых суайчыннікаў.

У 1989-91 гадах я звярнуўся да пісьменнікаў беларускай эміграцыі, а таксама да іх сваякоў з просьбай даць мне завочнае інтэрв'ю. Прасіў іх расказаць пра свой творчы лёс, пра свае асноўныя творы, пра тое, як яны ацэньваюць феномен беларускамоўнага замежжа і яго месца ў беларускай культуры, назваць творы пісьменнікаў беларускай эміграцыі, якія, на іх погляд, сталі з'явай у нацыянальнай і сусветнай літаратуры, падзяліцца думкамі пра сучасную беларускую савецкую літаратуру, яе адрозненне і падабенства з літаратурай эмігранцкай, а таксама пра тое, чым з'яўляецца для іх Беларусь, як яны зберaглі далёка ад радзімы родную мову, паведаміць, урэшце, над чым працуюць зараз.

На просьбу адгукнуліся Н. Арсеннева, М. Сяднёў, А. Яцэвіч, Я. Пятроўскі, М. Панькоў, Я. Золак, М. Кавыль, А. Саковіч, М. Прускі—са Злучаных Штатаў Амерыкі, Ю. Жывіца — з Нямеччыны, К. Акула, С. Хмара—з Канады, З. Кадняк—з Аўстраліі.

Іхнія лісты-адказы (правапіс сучасны) прапаную рэдакцыі «ЛіМа». Мо яны пашыраць уяўленне чытачоў штотыднёвіка аб літаратурным жыцці беларускага замежжа, яго гісторыі і цяперашнім стане.

Сёння—слова Наталлі Арсеневай.

Леанід ПРАНЧАК.

## Наталля АРСЕННЕВА:

# «Я не палітык, і ніколі ім не была...»



Нью-Йорк. 1955 г.

Даражэнькі спадар Пранчак. Днямі атрымала ліст ад Данчыкавай мамы Юлі Андрусішынай, а з ім і Ваш ліст з «гарачымі прывітаннямі з Беларусі». Ліст, відаць, вельмі доўга недзе вандраваў, але ўсё ж патрапіў, куды трэба. Колькі магу, пастараюся, хоць адно больш-менш, выканаць Вашу просьбу. Высылаю Вам выпіску з нумара часопіса «Беларускі Сьвет», які выдае тут друкар-аматар сп. Мікола Прускі сваім коштам. Там Вы знойдзеце весткі з мае біяграфіі, а таксама колькі вершаў, як «ілюстрацыю» да гэтае біяграфіі.

●

Хоць я й нарадзілася ў месце Баку, на Каўказе (20 верасня 1903 г.), але месцам майго нараджэння лічыцца ўлюбёная Вільня, бо жыць сведама я пачала ў Вільні, якую я й лічу сваёй бацькаўшчынай, якую люблю й па якой найбольш сумую. Было нас у сям'і чацвёра дзяцей, тры сястры й адзін брат, усе — адзін пад адным. Маці ўзгадоўвала нас строга. Увесь наш дзень быў дакладна заняты. Вучыліся мы ў хаце. Вучыла нас сама маці, былая настаўніца, рыхтуючы адразу ў сярэднюю школу, і вучыла куды шырэй, чымся вымагала праграма навучання. Маючы дзесяць год, я вельмі добра, на адны пяцёркі, здала ўступныя экзамены й паступіла адразу ў другі клас Віленскае Марыінскае гімназіі.

Але правучылася я тут адно два гады. Першая сусветная вайна падышла пад самую Вільню, і места прымусова эвакуавалася. Нашая сям'я мусіла кідаць усё й падавацца на ўсход, у Расею. Як «бежанцы», мы трапілі ў далёкі Яраслаўль, што над Волгаю. Усё тут было нейкае йнакшае, чужое. Але мы прадаўжалі вучыцца ў адной з тутэйшых жаноцкіх гімназіяў, і навука, праца ў гімназіяльным літаратурным гуртку неўзабаве захапілі нас. Аднак скончыць школу і ў Яраслаўлі мне не давялося. Пачалася рэвалюцыя, разруха, голад... Супрацьбальшавіцкае паўстанне, што выбухла ўлетку 1918 года, ледзь не каштавала нам жыцця. Места напалову выгарала. Пачаўся тэрор. І бацькі наважылі кідаць ізноў усё й брацца пакрысе, усімі магчымымі спосабамі, на Захад, у родную Вільню.

Дабіраліся мы туды этапамі больш года. Калі мы нарэшце дабраліся да Дзвінскае станцыі, мы ўсе, дзеці, злеглі покатам на бруднай падлозе — захварэлі адразу ўсе чацвёра на «гішпанку», што шалела тады на свеце.

Як нас давезлі бацькі да Вільні, не памятаю, бо хварэлі мы доўга. А калі ачунялі, было нас ужо не чацвёра, а ўсяго трое, бо мая сястра Галіна ад гэтае пракуднае «гішпанкі» памерла. За час нашага «бежанства», а трывала яно блізу 5 год, уся наша невялікая віленская маёмасць была парасцяганая, у кватэры жылі чужыя людзі. Давялося маім бацькам пачынаць склейваць неяк жыццё ад пачатку. Цяжка гэта было. Ды з прыгнечання, а часта й з гаркое роспачы ратавала мяне ў тыя цяжкія гады Першая Віленская Беларуская Гімназія. Маці ўдалося ўладзіцца на працу ў амерыканскую кухню, што дакармлівала тады галодную паваенную Еўропу, а ў тым ліку й нас, вучняў беларускае гімназіі, куды якраз прынялі мяне, сястру й брата.

Успамінаю я сёння тыя гады й сціскаецца сэрца. У глыбокай матэрыяльнай нястачы міналі дні. Не ставала блізу ўсяго. Ды не было, на шчасце, нястачы ў змагарах за долю Беларусі, у настаўніках, што самі, галодныя й халодныя, стараліся выхаваць нас, вучняў Першае Віленскае Беларускае Гімназіі, на людзей, што, здабыўшы навуку, перанялі б іхнюю працу; выкавалі б, нарэшце, лепшую долю бацькаўшчыне.

Людзі, што вучылі нас у Вільні ў 1919-м, 1920-м, 1921-м, 1922-м ды паслейшых гадах, навучылі на ўсё жыццё й мяне, і шмат каго з маіх аднагодкаў, горача палюбіць Беларусь, стацца ейнымі пільнымі служкамі назаўсёды.

У чэрвені 1921 года ў маіх руках быў атэстат аб сканчэнні сярэдняе асветы — «матура». А ў верасні я пачала настаўнічаць у адной з беларускіх школаў, якіх было тады ў Вільні, здаецца, аж 7, ды паступіла вучыцца ў Віленскі універсітэт. Пільна супрацоўнічала я ўвесь час і ў тагачасных беларускіх часопісах ды газетах... А яшчэ праз год я выйшла замуж і выехала з Вільні.

Пачалося новае жыццё, новыя клопаты. І наступнаю восеняй, у невялікім пакойчыку на ўскраіне Слоніма, над спавітаю ў сцюдзёныя туманы Шчараю, я спявала ўжо калыханку свайму першаму дзіцяці, чарнавокаму сынку Яраславу.

Неўзабаве з'явіўся й другі сын — Уладзімір. І я пазнала перажыванні, найглыбейшыя, на маю думку, і найшчаслівейшыя — пачуцці й перажыванні маці.

У 1939 годзе пачалася польска-нямецкая вайна. Вільню, падаючы нам «братнюю руку», занялі Саветы. Муж апынуўся недзе ў савецкім палоне. Я засталася сама з малымі сынамі. Шукаючы заработку, каб пракарміць іх і сябе, бо працы ў «летувіскай» ужо Вільні не было, я падалася ў Вілейку, куды выехалі з Вільні мае сваякі й слалі цяпер лісты, каб прыязджала да іх. Тут, у Вілейцы, 13-га красавіка 1940 года, на золку сцюдзёнага, зусім не веснавога дня, мяне й забрала з хлопцамі НКВД...

Заладавалі ў набіты перапалоханымі жанчынамі й дзецьмі брудны таварны вагон і павезлі ў далёкі Казахстан. Там, у глухім стэпавым калгасе, у невымоўна цяжкіх абставінах, давялося нам пражыць шмат месяцаў...

Хутка пачалася новая вайна. Жахлівая й крывавая Другая сусветная. Сапраўдным цудам удалося нам усім неяк дабрацца да Беларусі.

Пачаліся гады, якія не кожнаму даводзіцца перажыць нат у нашыя несамавітыя часы — нямецкая акупацыя Беларусі, жорсткая й безаглядная. А 22-га чэрвеня 1943 года доля не ашчадзіла мне найвялікшага гора, якое толькі можа стацца ўдзелам маці: ад міны, што ўзарвалася ў Менскім гарадскім тэатры, перапоўненым школьнай моладдзю, загінуў мой першародны сын.

Не ведаю, ці ёсць на свеце вастрэйшы, глыбейшы боль, чымся хаваць сваё дзіця? Думаю, што няма. Бо мінула ад таго чэрвеньскага дня ўжо блізу чвэрць стагоддзя, а боль гэты жыве ўва мне, недзе глыбока, і сёння.

Мінуў яшчэ адзін год. Штораз часцей, штораз гучней пачалі грымець на ўсходзе цяжкія гарматы. Уначы калаціліся вокны... і калацілася ці ў аднаго сэрца. Усё часцей сыпаліся на Менск бомбы... А напрыканцы чэрвеня 1944 года давялося мне пакінуць Менск, каб не пабачыць ужо, хіба, ніколі.

Паплыло жыццё на чужыне. Нямеччына, канец вайны, лагеры ДП, пераезд за акіян... Усе мы скаштавалі ўсяго гэтага. І вось, пасля колькіх дзесяткаў год, пражытых у Амерыцы, пасля новых удараў долі, новых смерцяў, новых слёзаў,— я азіраюся сёння назад. Іду напярэймы мінуламу. І дарма, што ўсе крыўды, беды, магілы, я звяртаюся да свайго жыцця без жалю, адно з ціхаю просьбаю:

**Жыццё, няшмат ужо дарогі,**
**Штораз цямней, цішэй наўкола,**
**Дык дай мне роднага парогу**
**Даткнуць, пакуль замкнецца кола!**

Пісаць вершы я пачала, маючы ўжо год чатырнаццаць. Вучылася я тады ў Кацярынінскай жаночай гімназіі ў Багдановічавым месце Яраслаўлі. Памятаю, як сёння, што я вельмі зайздросціла маім сяброўкам, якія змяшчалі ў нашым вучнёўскім часопісе свае вершы. Ці раз, застаўшыся адна ў хаце, я марнавала гадзіны, сілячыся выліць на паперу хоць пару радкоў,— нічога неяк не ўдавалася. Аж раптам, зусім нечакана, удалося! Памятаю, што быў гэта верш пра неба й аблокі, якія так лена плылі ў той дзень над яблынямі саду, куды выходзілі вокны нашага пакоя, ды што пачынаўся ён словамі «Па сініх нябёсах аблокі плывуць, бліскучыя, белыя горы...» Верш гэты быў, пэўна ж, яшчэ мала да сапраўднага верша падобны, але радасці маёй і ганарлівасці не было межаў!

Пачалася рэвалюцыя 1917 года. Цяжкія, нясталыя ўмовы жыцця, што зусім не спрыялі паэзіі, перапынілі на нейкі час развіццё маіх паэтыцкіх здольнасцяў.

Вершы пачала ізноў пісаць я ў Першай Віленскай Беларускай Гімназіі. Маім духовым настаўнікам стаўся блізу з першых дзён навукі ў гімназіі настаўнік беларускае мовы й літаратуры, аўтар «Руні» й «Патаёмнага» — Максім Гарэцкі. Памятаю, калі я пабачыла яго ўпершыню на лекцыі ў нашым 7-ым класе, мяне самперш уразілі ягоныя вочы — вялікія, цёмныя, гарачыя, быццам два чорныя знічы (я гэтак і падумала тады — «знічы») на худаватым, аскетычным, крыху татарскага складу твары. Іншых вачэй, падумала я, аўтар «Патаёмнага» мець і не мог... Зразумела я тады таксама й тое, што мушу цяпер як найхутчэй дасканала апанаваць беларускую мову й заўсёды, заўсёды, найлепей за ўсіх у класе, ведаць зададзеныя нам Гарэцкім лекцыі з беларускае літаратуры.

І я дапяла свае мэты, як заўсёды ў жыцці патрапіць дапяць яе кожны, хто сапраўды шчыра нечага хоча. У восьмы клас я перайшла з добрымі ацэнкамі й з беларускае мовы й з літаратуры.

Тымчасам мінула лета 1920 года, трывожнае, поўнае надзеяў і зменаў. Вільню занялі на колькі часу, а тады ў поспеху пакінулі, бальшавікі... Аднак заняткі ў Беларускай гімназіі, якую я ўжо моцна паспела палюбіць, пачаліся ў сваім часе й я ўзноўкі сустрэлася з сябрамі й настаўнікамі, між імі з Максімам Гарэцкім. На вялікі мой жаль, ён не быў ужо выкладчыкам літаратуры ў нашым класе. Ды сувязь мая з ім дзеля гэтага не парвалася, а яшчэ памацнела.

Гэтага памятнага для мяне вечара першым выйшаў на сцэну Гарэцкі. Памаўчаўшы, ён абвясціў прысутных, што мае для іх добрую навіну. «У нас з'явілася новая Буйлянка,— сказаў ён,— новая паэтка, якая ўжо сёння ці не пераўышае Канстанцыю Буйлу сваім талентам. Вось паслухайце...» І Гарэцкі пачаў чытаць... дадзеныя яму нараніцы мае вершы. Было іх два: «Восень» і «Светлы дзень дагарае над сумнай зямлёю». Даю тут адзін з іх, як «узор» маіх самых першых «твораў».

**ВОСЕНЬ**

**Хай жаўцее, сціхае сад з кожнай гадзінай,**
**Сонца ласкі гарачыя ўсюды не сее,**
**Хай гарыць, як заход, лісць чырвонай асіны,**
**Хай апошнія кветкі у садзе бялеюць,—**
**Будзем чакаці вясны!**

**Хай паўзуць паласою калматыя хмары,**
**Хай цямнее рака, хай жыццё замірае,—**
**Не агорнуць нас восені горкія мары,**
**Кожны з нас яшчэ светлае шчасце пазнае, —**
**Будзем чакаці вясны!**

**Хай у душах надзея на долю канае,**
**Усё мінецца, бы ў летні дзянёк навальніца.**
**Прыйдзе час — сонца сіняй вышою заззяе,**
**Закрасуець зялёнаю рунню зямліца...**
**Будзем чакаці вясны!**

Калі я пісала гэтыя вершы, мне было 17 год. Тады, хіба, і пачалася мая літаратурная «кар'ера». Месяцаў шэсць паслей мае вершы, якія я пякла ў тыя гады, як бліны, пачалі друкавацца ў беларускіх часопісах і газетах, а праз колькі год, у 1927 годзе, у Вільні выйшаў друкам першы мой зборнік «Пад сінім небам».

Зборнік гэты, хай і вельмі шчыры, але гэткі яшчэ недасканалы, быў адылі прыхільна сустрэты беларускаю крытыкай. Літаратуравед А. Навіна (Антон Луцкевіч) і іншыя вельмі нават хвалілі яго. Перагортваючы бачынкі «Пад сінім небам» сёння, я выразна магу прасачыць па вершах зборніка шлях майго паэтычнага развіцця, узбагачання мовы. Якая розніца, прыкладам, паміж некаторымі зусім яшчэ школьнымі вершамі, напісанымі ў 1920 годзе, але датаванымі 1921 годам (калі яны былі ўпершыню надрукаваныя), і вершамі, датаванымі, скажам, 1925 годам! Ды што зробіш? Якім бы мой першы зборнік ні быў, а сама кніжка і ейны аўтар маюць адно выбачэнне — сваю тагачасную зялёную маладосць!

Але вернемся да Першае Віленскае Беларускае Гімназіі, да М. Гарэцкага й іншага яшчэ чалавека, які меў таксама ці малы ўплыў на развіццё мае творчасці — да настаўніка беларускае літаратуры ў нашым 8-ым класе Антона Луцкевіча.

М. Гарэцкі быў вельмі суровым, маламоўным настаўнікам і крытыкам. Ён блізу ніколі не правіў слабейшых месцаў маіх вершаў, бо здараліся ж і такія, а проста аддаваў іх мне, зацеміўшы: «Гэтак па-беларуску не гаворыцца» або «Гэтае месца раджу перапрацаваць» ці штось іншае. Неўзабаве я навучылася разумець яго не толькі з паўслова, але гледзячы адно на ягоныя шырокія, цёмныя бровы, якія то насупліваліся, то ўзнімаліся ўгару, залежна ад уражання. Рух гэтых броваў, нячастая ўсмешка на вузкіх вуснах,— былі тым стымулам, што вёў мяне наперад, прымушаў упарта працаваць над сабою, над моваю...

Максім Гарэцкі ніколі не хваліў мяне, хіба за вочы, што я б ні напісала. Але ганіў часта. За русіцызмы ў мове, за памылкі ў правапісе. Аглядаючыся назад, я думаю, што гэны метад узгадавання паэткі Наталлі Арсеневай быў не зусім правільны. Хай я й заслугоўвала суровае крытыкі, не можна нікога адно ганіць, не падбадзёрваючы час ад часу хай сабе маленькаю пахвалой. Я, прыкладам, адчувала вынікі гэнага метаду на сабе ўсё паслейшае жыццё, адчуваю нават і цяпер, бо «строгасць» Гарэцкага ўзгадавала ў мяне сумлеў, нявер у свае сілы, у сваю вартасць. Што б я ні пісала на працягу сарака год мае творчасці, мне заўсёды здавалася й здаецца, што, хай іншыя й хваляць, гэта няшчырасць з іхняга боку й вершы нічога нявартыя. І я вельмі перажывала свае, найчасцей уяўныя, няўдачы.

(Працяг на стар. 12).

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

## Аднаўленне памяці




Кнігі Уладзіміра Арлова, як кажуць, адразу знаходзяць дарогу да чытацкіх сэрцаў. Не будзе выключэннем, пэўна, і зборнік яго літаратурна-крытычных артыкулаў і эсэ «Совершенно секретно», або Адзін у трох іпастасях», што папоўніў «Бібліятэку часопіса «Маладосць». Прыцягальнасць зборніка — ужо ў самім матэрыяле, што лёг у яго аснову. Вось што пра гэта гаворыць рэдакцыйная анатацыя: «Беларускі народ стаў на доўгі і пакутлівы шлях вяртання да самога сябе. Адбудаваць незалежную Бацькаўшчыну немагчыма без аднаўлення нашай амаль зруйнаванай памяці. Пра гістарычную самасвядомасць беларусаў, «белыя плямы» і «чорныя дзіркі» даўняга і нядаўняга мінулага і разважае аўтар гэтае кнігі. А назву ёй далі нататкі пра аднаго з буйных фальсіфікатараў гісторыі Беларусі, вернага служку партакратаў - звышінтэрнацыяналістаў Лаўрэнція Абэцэдарскага».

Гэтыя нататкі, дарэчы, ўпершыню былі апублікаваны на старонках «ЛіМа» і выкрывалі абэцэдаршчыну — ганебную з'яву ў нашай гістарычнай навуцы, калі беларусам, коратка кажучы, адмаўлялася ў праве мець сваю гісторыю, а ўсё падганялася толькі пад гісторыю Расіі.

Артыкул «Калі чырванее Кліо» (ён упершыню змяшчаўся ў «Литературной газете») — таксама пра занядбанне нашай гістарычнай памяці, пра тое трывожнае становішча, у якім апынулася гістарычная навука ў рэспубліцы. І — пра занядбанне самой народнай памяці, пра неабходнасць яе аднаўлення. Гэты артыкул меў неадназначныя водгукі. У выніку пісьменнік мусіў выступіць другі раз на старонках «Литературки» — з артыкулам «З ліхтаром памяці».

У гэтую невялікую кнігу У. Арлова ўвайшлі яшчэ два матэрыялы-нататкі з нагоды выхаду ў свет энцыклапедыі «Францыск Скарына і яго час» і рэцэнзія на зборнік артыкулаў Аляксея Каўкі «Тут мой народ. Францыск Скарына і беларуская літаратура XVI—пачатку XX ст.»

Крыху адасоблена стаіць артыкул-роздум «Хто выкраў крыж Еўфрасінні?». Хаця — чаму адасоблена? Ён таксама пра тое, чым прасякнуты іншыя публікацыі: пра аднаўленне нацыянальнай памяці.

А. М.

# «...Не будзе Польшчаю ці Літвою, а будзе Беларуссю»

## Марыя Канапніцкая пра Палессе

Ацэньваючы творчую спадчыну Марыі Канапніцкай, яе ўклад у славянскую культуру, Янка Купала ў вершы, прысвечаным памяці пісьменніцы, назваў яе «пясняркай народаў», «заступніцай усіх нешчаслівых», «вялікай пясняркай-княгіняй». Выдатны сын беларускага народа прарочыў Марыі Канапніцкай несмяротнасць.

Творы польскай пісьменніцы былі вядомы на Беларусі яшчэ да рэвалюцыі. З той пары яны нязменна карысталіся прыхільнасцю чытачоў, прываблівалі сваім гуманістычным пафасам. На жаль, даводзіцца гаварыць пра тое, што далёка не ўсе, нават самыя выдатныя творы Марыі Канапніцкай, перакладзены на беларускую мову, у тым ліку і тыя, у якіх адлюстравана беларуская рэчаіснасць.

Марыя Канапніцкая рэдагавала дэмакратычны часопіс для жанчын. Актыўнымі карэспандэнтамі гэтага выдання былі пясняркі з Беларусі — Эліза Ажэшка і Марыя Радзевіч. Падлеткамі Эліза Ажэшка і Марыя Канапніцкая вучыліся ў адным з закрытых пансіёнаў у Варшаве. Пазней падтрымлівалі сяброўскія і прафесійныя кантакты. У 1888 годзе Марыя Канапніцкая будзе гасцяваць у Гародні ў Элізы Ажэшкі. У лісце, адрасаваным сябру, падзеліцца сваімі ўражаннямі пра горад. На жаль, яны горкія і балючыя: «А Гародня — няхай бог над ім зжаліцца. Той Нёман мог бы плыць аднымі слязьмі, і не было б дзіўна. Людзей тут занадта мала, жыццё тут занадта цяжкае». (Тут і ніжэй цытуецца па кнізе А. Мальдзіса «Творчае пабрацімства»).

У час наведвання Гарадзеншчыны Марыя Канапніцкая разважала пра лёс сваёй Айчыны, пра лёс былой Рэчы Паспалітай. Вельмі паказальныя яе думкі ў вышэйзгаданым лісце пра будучыню народаў Вялікага княства Літоўскага: «Тое, што там народзіцца калісьці ў народным асяроддзі, не будзе Польшчаю ці Літвою, а будзе Беларуссю. Гістарычныя рысы час і нявола выгрызуць, этнаграфічныя ж рысы астануцца.

Такім чынам, яшчэ ў 1888 годзе, калі ледзьве тлела ідэя беларускага шляху, Марыя Канапніцкая верыла ў яго перспектыву, а галоўнае — успрымала адраджэнне Беларусі як зусім нармальную з'яву.

У наступным 1889 годзе Марыя Канапніцкая адгукнецца на запрашэнне нашай землячкі Марыі Радзевіч і будзе гасцяваць у маёнтку Грушава (цяпер Кобрынскі раён). Марыя Радзевіч папулярызавала Палессе сярод польскай дэмакратычнай інтэлігенцыі. Гаспадыня пазнаёміла госцю са сваім краем. Марыя Канапніцкая наведала Пінск, іншыя палескія мястэчкі. У лістах у Варшаву дзялілася першымі ўражаннямі. Яны захапляльныя: «Старонка цікавая, упершыню з ёй знаёмлюся. Падабаецца вельмі. Пінск і Піншчыну трэба аглядаць вясною, калі шырока і далёка разліваецца вада. Але і цяпер, восенню, цікавіць мяне гэтая ваколіца. Ваколіца і людзі. Край змяніўся, пазбавіўся былых прыкметаў, вады стала менш, лясы высеклі, значная частка земляў — у руках рускіх».

У сваіх лістах з Палесся занатоўвае Марыя Канапніцкая сваё ўражанне ад пінчука, спрабуе акрэсліць яго знешні выгляд і адметнасці характару: «Пінчук заўсёды застаецца тым самым, тылова худы, чарнявы, брудны, фанабэрысты і бедны. Заўсёды на плячах ён носіць тую ж самую торбу з акрайцам чорнага хлеба і салёным агурком, заўсёды пляце лапці і апранаецца ў саматканую світку».

Ёсць падабенства ва ўражаннях у Марыі Канапніцкай і Якуба Коласа. Лабановіч, герой трылогіі, упершыню трапляе на Караліна рынак у Пінску, шукае, хто б завёз яго на новае месца працы, прыглядаецца да мясцовага люду: «Сям-там пападаліся тыповыя постаці палешукоў і паляшучак, надзвычай паважных і нават гордых, бо яны так зняважліва пагледалі на ўсё, што не было палешуком, і не надта ахвотна ўступалі ў размовы, якія не мелі беспасрэдных адносінаў да іх уласных персон. Па іх думцы, хто не паляшук, той басяк або проста жулік». Дарэчы будзе адзначыць, што Уладзімір Караткевіч, які шмат вандраваў па Палессі і добра ведаў асаблівасці беларусаў розных рэгіёнаў, падкрэсліваў, што чарнявыя найбольш сустракаюцца на Палессі і пераважна сярод мужчын.

Палессе пакіне значны след у сэрцы і памяці Марыі Канапніцкай і стане прадметам мастацкага асэнсавання ў яе творах. У 1892 годзе пясьнярка пачне працу над адным з буйнейшых сваіх твораў — паэмай «Пан Бальцар у Бразіліі», прысвечанай праблеме эміграцыі. Традыцыйна лічыцца, што паэма прысвечана трагедыі польскага сялянства, вымушанага пакідаць радзіму, шукаючы на чужыне шчасця і долі. Такой пазіцыі прытрымліваецца і В. Семянкоў, аўтар артыкулаў пра Марыю Канапніцкую ў БелСЭ і энцыклапедычным даведніку «Літаратура і мастацтва Беларусі». Аднак ёсць усе падставы сцвярджаць, што эпічнае палатно пісьменніцы распавядае пра трагедыю не толькі польскіх, але і беларускіх сялян-эмігрантаў. Марыя Канапніцкая пераконвае чытача, што для чалавека, дзе б ён ні жыў і кім бы ні быў, растанне з радзімаю не можа не параніць душу, што гэтая рана заўсёды будзе балець і крывавіць.

Большасць герояў паэмы «Пан Бальцар у Бразіліі» з Падляшша, дзе спрадвеку жыў і беларускі этнас. Падляшша ўваходзіла ў старажытную Беларусь, а пазней у Вялікае княства Літоўскае. Апавяданне ў творы вядзецца ад імя пана Бальцара. Праз яго ўспрыманне паказваецца ўсё, што становіцца прадметам мастацкага асэнсавання. Пан Бальцар — выразнік ідэяў, ідэалаў Марыі Канапніцкай. Герой-апавядальнік, як ён сам адзначае, «родам з падляшскай хаты», як і героі-уніяты. Вядома, што сярод этнічных палякаў уніятаў не было і быць не магло: яны належалі да каталіцкай канфесіі. Ёсць у паэме «Пан Бальцар у Бразіліі» герой Астапчук Луць з Лагішына, якога да польскага сялянства ўжо зусім не залічыш.

Адарваныя ад радзімы, героі Марыі Канапніцкай думкамі, успамінамі, сэрцам жывуць у родных сваіх мясцінах, дзе нарадзіліся. З вуснаў пана Бальцара найчасцей прыгадваецца Буг, а таксама некаторыя паселішчы па абодва яго бакі. Часам думка героя сягае далей, углыб

ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ

# НАСУПЕРАК ФАКТАМ

Выхад кнігі пра родны горад — заўсёды значная падзея ў жыцці яго жыхароў. Пра Клецк, які на 19 год старэйшы за Маскву, упершыню выйшаў гісторыка-эканамічны нарыс толькі ў 1978 годзе, да 850-годдзя горада. Аўтар кнігі, былы намеснік рэдактара раённай газеты Аляксандр Бушэнка, абагуліў тое, што сабралі мясцовыя краязнаўцы, гісторыкі, фонды школьных музеяў. Матэрыял рыхтаваўся спешна, і, больш таго, аўтар ніколі не займаўся вывучэннем Клеччыны. Таму ў кніжку трапіла шмат недакладнасцей, памылак, важныя падзеі заменены асвятленнем зусім нязначных.

Але вось нядаўна ў тым жа выдавецтве «Беларусь» выйшла кніга Д. Чорнага «Клецк». Думалася, памылкі і ўпушчэнні, якія дапусціў папярэдні аўтар, будуць выпраўлены. Тым больш, што Д. Чорны шмат год працаваў дырэктарам Клецкага гісторыка-этнаграфічнага музея. Але, але...

...Імя Кірылы Пракопавіча Арлоўскага добра вядома на Клеччыне. Ён партызаніў тут у 20-ыя гады, а потым — у перыяд Вялікай Айчыннай вайны. 26 кастрычніка 1942 года партызанская спецгрупа «Сокалы» з 10 чалавек на чале з К. Арлоўскім высадзілася ў варожым тыле — каля 20 кіламетраў ад Выганаўскага возера (частка групы з 7 чалавек засталася ў Маскве). Партызаны хутка наладзілі сувязь з мясцовымі жыхарамі П. Савасцюком, Васілём Халецкім, Паўлам Пінчуком, Аляксандрам Федаровічам...

Як жа расказваецца пра гэта ў кнізе? На стар. 61 аўтар сцвярджае, што не дзесяць, а 19 партызан высадзіліся ў глыбокім тыле. Што першымі да атрада далучыліся Васіль і Аляксандр Халецкія і што Аляксандр паведаміў Арлоўскаму пра паляванне высокіх нямецкіх чыноў у Машукоўскім лесе. Гэта няпраўда. Браты Халецкія былі леснікамі і з першых дзён прыбыцця спецатрада «Сокалы» ў Машукоўскі лес сувязь з Арлоўскім падтрымліваў толькі Васіль Халецкі. Ён жа і паведаміў камандзіру «Сокалаў» пра паляване генералаў з Баранавіч і сам з партызанамі быў у засадзе. Пасля ўдалай аперацыі разам з сям'ёй перайшоў у атрад, потым стаў камандзірам партызанскага атрада імя Свярдлова, але падарваўся на міне і памёр ад ран. Нядаўна яго сыну, які жыве ў вёсцы Бабаевічы Клецкага раёна, уручана ўзнагарода бацькі ваеннага часу — ордэн Айчыннай вайны II ступені.

Аляксандр Халецкі ніякай сувязі з Арлоўскім не падтрымліваў і яго імя адсутнічае ў дакументах спецатрада НКУС СССР «Сокалы». Калі яго брат даведаўся пра паляванне высокіх чыноў, то ён, спаслаўшыся на хваробу, папрасіў Аляксандра суправаджаць гасцей у яго абходзе, а сам паспяшаўся з навіной у лес да Арлоўскага. Аляксандру Халецкаму было загадана сесці на першыя сані... Але бой адбыўся, калі паляўнічыя вярталіся з лесу. А. Халецкага знайшлі забітым паміж пятымі і шостымі санямі... І ўсё. І ніякі ён ні Сусанін, як сцвярджае Д. Чорны.

Невялікі ўрывак з кнігі пра атрад «Сокалы», усяго тры абзацы, і амаль у кожным радку недакладнасці і памылкі, заслугі аднаго прыпісваюцца другому. А варта было б паглядзець БелСЭ (т. 9) ці кнігу І. Рыжкова «Чалавек з легенды» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991 г.), іншыя выданні, каб усё стала на сваё месца. І зусім незразумела дапаўненне ў кнізе — фота А. Халецкага.

На стар. 57—59 апавядаецца пра дзейнасць членаў Шчэпіцкага камсамольска-маладзёжнага падполля (у нарысе яно чамусьці названа групай супраціўлення), якое ўзначальваў Сяргей Толкач. І тут, дарэчы, шмат вольнасцей аўтара.

Удакладнім, што першы канспіратыўны сход камсамольцаў адбыўся не ў жніўні, а ў ліпені 1941 года. Як сведчаць дакументы гэтага падполля, камандзіра баявой групы ніхто не выбіраў. У вёсцы Даматканавічы ў падпольную арганізацыю ўваходзіла 8 акружэнцаў, а не пяць.

Ёсць шэраг і іншых памылак у асвятленні дзейнасці гэтага падполля. І гэта здарылася таму, што пры падрыхтоўцы матэрыяла аўтар не выкарыстоўваў архіўныя дакументы, а карыстаўся хутчэй за ўсё публікацыяй з газеты «Знамя юности» за 9 снежня 1958 года. У ёй аўтары Р. Платонаў і Л. Кавалерчык павярхоўна расказалі аб дзейнасці Шчэпіцкай падпольнай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі. Іх пралікі трапілі і на старонкі кнігі.

Калі прачытаць раздзел «Пасля Рыжскага мірнага дагавору», то складваецца ўражанне, што, акрамя рэвалюцыйнай дзейнасці навучэнцаў Клецкай беларускай гімназіі ў 1929—31 гг., нічога больш у Клецку і не было. На самай справе гэта далёка не так. У Клецкай гміне дзейнічаў падпольны РК КПЗБ з 1932 года. Сакратарамі яго ў розны час былі Іван Ціхан, Канстанцін Леўшык, Пётр Гінюк.. Ячэйкі КПЗБ і КСМЗБ былі ў вёсках Капланавічы, Малыя Мервіны, Цясноўка, Матушы, Дамарацкія, Чарапы, Гарбуноўшчына, Сухлічы, Бабаевічы, Вялікая Балвань, Галынка. Дзесяткі падпольшчыкаў былі арыштаваны польскай паліцыяй і дэфензівай і асуджаны.

На стар. 34 успамінаецца Іван Бобка і Васіль Нямера, якія польскімі ўладамі былі прыгавораны да пакарання смерцю, але прысуд быў зменены пажыццёвай катар-

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**



## Штучныя зоры

Яшчэ на пустую руіну
Дзесь падалі слёзы з вачэй, —
А штучныя зоры з рубіну
На вежы ўздымалі вышэй.

Камусьці прывабным свячэнне
Здавалася ў той вышыні.
Але ад глухога прамення
Не сталі святлейшымі дні

І ночы ў маўклівым наўколлі,
Дзе бліскаў халодны агонь.
Здаецца, яго аніколі
Не ўзяў бы ў сваю я далонь.

Не даў ён ніякае зрухі
Жыццю рэк, палеткаў і гор.
Было толькі шмат паказухі
У бляску рубінавых зор...

Ішлі мы па снежным бязмежжы,
Калі ўсюды сцюжа мяла.
А зорка з высокае вежы
Сагрэць нас нічым не магла.

У змрочны абсяг, цёмны морак,
Па сцежках крутых ідучы,
Цягнуліся больш да тых зорак,
Што з неба свяцілі ўначы.

Мы марылі ў шчасці і горы,
Каб лепей, святлей нам было.
А хто ў неагляднай прасторы
Запальваў нямое святло!

З прыродаю жыць неразлучна
Зямным нам даецца святлом.
А зорам, што робяцца штучна,
Не буду больш біць я чалом.

## Буслы пад крыжам

Прайшла над вёскай навальніца,
Пашкуматала дрэвы ўсе.
Няма буслам дзе прытуліцца
Ні пад страхой, ні на стрэсе.

Уздоўж парканаў ціхіх вулак
Вятрыска шэры пыл мяце.
Буслы ж павінны мець прытулак,
Каб прыгняздзіцца дзе-нідзе.

І ім жа трэба неяк выжыць,
Пакуль расце яшчэ трава.
Заўважылі — стаіць пад крыжам
Адна ўцалелая царква.

Ніхто туды ім для буслянкі
Не ўсцягваў кола на яе.
І пачалі завязваць ранкі
Яны ў вузельчыкі свае.

На вышыні лепш чым унізе.
У пералівах сінявы
Буслы гняздзечка на карнізе
Звілі пад купалам царквы.

І от сядзяць каля званіцы,
Дзе ў звон нястомна б'е званар.
Прыходзяць людзі памаліцца,
Каб ім не ведаць больш ахвяр.

Ад звонкай ютрані да ночы
Ідзе тут служба, як калісь,
А над царквой буслы клякочуць,
Закінуўшы галоўкі ўвысь.

Каб чулі гарады і сёлы,
Адчуўшы хрысціянскі звон,
Як белакрылыя анёлы
Адстукваюць зямлі паклон.

У птахаў ёсць таксама святы:
На крылы не ўпадзе імжа
І ў вольны свет іх бусляняты
Узлятуць з-пад гэтага крыжа!

## Суровы летапіс

Каб летапісцу зноў пара настала
Пісаць сваё апошняе сказанне, —
Што ён паведаў бы ў сваіх аналах
Пра сённяшняе наша існаванне!

# МЫ—ЯШЧЭ ЖЫВЫЯ!

## Нататкі з Тыдня беларускай літаратуры ў Берліне

Гэта быў папраўдзе дар неба, адабраць які аказалася не пад сілу ніякім неспрыяльнасцям. Але ўсё па парадку.

Напрыканцы леташняга снежня, перад самым Новым годам, я атрымала з Германіі неспадзяваны ліст, які глыбока ўсхваляваў і ўзрадаваў: дырэктар Літаратурнага Калёквіума ў Берліне спадар Ульрых Янэцкі паважліва, на чысцюткай беларускай мове запрашаў мяне прыняць удзел у Тыдні беларускай літаратуры, які нямецкія сябры намерваліся наладзіць у траўні гэтага года. Паведамлялася, што ў дапамогу мне запрошана мая сяброўка, зямлячка, беларусістка, дацэнт Брэсцкага педінстытута Марыя Новік; што мы забяспечваемся жыллём і харчаваннем, толькі аб аплаце дарогі ў два канцы мусіў паклапаціцца Саюз пісьменнікаў; што праграма Тыдня прадугледжвае літаратурныя вечары, сустрэчы з прэсай і азнаямляльныя экскурсіі і што гаспадары спадзяюцца на нашу згоду.

Узрушаная такой радаснай навіной, званю ў Саюз пісьменнікаў. Васіль Зуёнак трохі разгублены: ён яшчэ нічога не ведае, але выказвае адабрэнне, што немцы даслалі індывідуальныя запрашэнні, ды адразу ж тлумачыць, што валюты, канешне, няма. СП можа заплаціць толькі рублямі за праезд да Брэста. Аднак калі прыйдзе афіцыйны ліст з Германіі, тады кіраўніцтва СП звернецца па дапамогу у Савет Міністраў, бо, як-ніяк, справа ідзе аб гонары дзяржавы: гэта ж першы ў Заходняй Еўропе Тыдзень нацыянальнай літаратуры Беларусі! «Будзем спадзявацца!»

Спадзяванні на Савет Міністраў аказаліся марнымі. Чатыры месяцы запар па ўсіх бессмяротных канонах бюракратычнай сістэмы вялося «прыманне рашэнняў» аб выдзяленні васьмі літаратарам 1 200 долараў на дарогу, і, у рэшце рэшт, сумы гэтай на культуру ў беларускага ўрада не знайшлося. Паездка не сарвалася толькі дзякуючы Міністэрству замежных спраў і яго міністру спадару Пятру Краўчанку. Менавіта ён і сродкі знайшоў, і пажадаў сустрэцца з намі перад ад'ездам, і пазваніў у Консульскі аддзел у Берліне з просьбай сустрэць нас і спрыяць ва ўсім, у прыватнасці, дапамагаць з транспартам. І калі мы — Васіль Быкаў, Адам Мальдзіс, Анатоль Кудравец, Алесь Разанаў, Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў, Марыя Новік і я 10 траўня ўвечары ступілі на берлінскі перон, нас сустракалі не толькі ініцыятары Тыдня ды менскі навуковец, даследчык беларуска-нямецкіх сувязей Леанард Сакалоўскі, які на той час працаваў у берлінскіх архівах, але і першы сакратар Консульскага аддзела Павел Паўлавіч Шарай. Ужо ў пасольскім «рафіку» па дарозе з вакзала да Ванзэе, дзе нас меліся пасяліць, выявілася, што спадар Шарай — родам з Драгічына. Вось ужо, сапраўды, «няведамныя шляхі твае, Госпадзі»: гэта ж трэба было мне ажно ў Нямеччыну трапіць, каб пазнаёміцца з драгічынцам!..

Прыехалі ў Ванзэе блізка апоўначы. Гаспадары Ульрых Янэцкі, Вольфганг Дзядэк і Альфрэд-Свен апярэдзілі нас і ўжо чакалі ў двары Літаратурнага Калёквіума — зграбнай, кампактнай вілы на беразе вялікага возера, якое і дало назоў тутэйшаму раёну Заходняга Берліна.

Назаўтра выявілася ўся прывабнасць гэтага куточка, яго свежыя кветнікі, пышныя платаны, сакавітае зеленатраўе даволі крутога беражнога схілу, упульная цішыня і крышталёвая свежасць паветра.

Пасля нядоўгай вячэры нам паказалі нашы жылыя пакоі. Кожнаму — асобны. Абсталяванне як быццам самае звычайнае: шырокая тахта, засланая пухавіком, шафа для верхняга адзення, пісьмовы стол і крэсла да яго, яшчэ адзін — нізкі столік з двума мяккімі крэсламі, халадзільнік. Але тахту, пры патрэбе, можна лёгка паставіць на рабро, і яна ператворыцца ў вузкую сценку, шуфлядкі пісьмовага стала спецыяльна зроблены пад памер камп'ютэра; а на трубе ацяпляльнай батарэі—ручны рэгулятар пары: дазіруй цяпло ў залежнасці ад самаадчування... У кожным нумары ёсць сан-гігіенічны пакойчык, аднак нас клапатліва папярэдзілі, што на паверсе маецца яшчэ адна, значна прастарнейшая ўмывальня, дзе ўсё, ад дзвярэй, якія не



Здымак на памяць. Госці і гаспадары каля рэйхстага.

расчыняюцца, а адсоўваюцца ўбок, да вяровачных лесвічак на сцяне прыстасавана да патрэб і магчымасцяў фізічна абмежаванага чалавека... Хай даруюцца мне такія банальныя падрабязнасці. Як кажуць, што каму дапякае, той пра тое і гукае. Мне давялося шмат павандраваць па рэспубліках былога Саюза, а вось за мяжу надарылася вырвацца ўпершыню. Савецкім людзям прадудзелі вушы пра жахі капіталістычнага свету, пра нэндзнае існаванне яго працоўных, пра распад культуры і асобы чалавека. Ах, даў бы Бог нам так расцвісці, як яны там «гніюць»!.. Нідзе і ніколі я не адчувала сябе такой раскутай, незакамплексаванай, спакойнай і годнай, як у тыя сем дзён побыту ў Берліне. Бо нідзе і ніколі не сутыкалася з такім дбаннем пра чалавека.

Непаўторнае аблічча кожнага будынка і надзвычайная чысціня зялёных, у кветніках, вуліц, адсутнасць бровак на пераходах і абавязковая спецдарожка для веласіпедыстаў, вакзальныя ліфты для нямоглых ці абцяжараных рэчамі, каб падняцца на перон, а там, дзе яны адсутнічаюць — уразлівая гатоўнасць прахожых прыязна памагчы інваліду, не чакаючы ягонай просьбы; гандлёвыя цэнтры з уваходнымі дзвярыма на фотаэлементах, якія расчыняюцца самі пры набліжэнні наведвальніка, і неверагодна багаты выбар харчовых і прамысловых тавараў у густоўных пакунках: «Наша мэта —абслужыць Вас так, каб набытае ў нас прынесла Вам радасць. У процілеглым выпадку звяртайцеся непасрэдна да загадчыка крамы»... Шчыра кажучы, нас проста «зашкальвала» ад гэтай лавіны абыходлівасці і бытавога глянцу, даўно звычайна-будзённага для заходніх немцаў. Нашы сэрцы раз-пораз азываліся балючым шчэмам: і мы ж не з гліны зляпленыя, ні душой, ні розумам не абдзеленыя, чаму ж на зямлі айчыннай папусціліся да такой абразлівай змізарнеласці?!

Аднак вернемся ў Берлін. Так, нямецкія сябры старанна парупіліся пра наш змястоўны адпачынак: былі экскурсіі па горадзе і яго прадмесцях, прагулка на цеплаходзе ў Патсдам і агляд палацаў ды паркаў знакамітага архітэктурнага ансамбля Сансусі — летняй рэзідэнцыі прускіх каралёў, наведванне музеяў, карціннай галерэі і багацейшага ў Еўропе Берлінскага заапарку. Але нас запрасілі найперш дзеля таго, каб бліжэй пазнаёміцца з незалежнай Рэспублікай Беларусь, угледзецца ў яе гісторыю і сучасное праз пасрэдніцтва яе літаратуры.

Творчыя людзі найвастрэй адчуваюць і выяўляюць «унутраны клімат» грамадства. Вось чаму ва ўсе вякі недэмакратычныя ўлады імкнуліся скарыстаць іх ва ўласных інтарэсах...

Наш першы літаратурны вечар адбыўся 12 траўня ў невялікай актавай зале Літаратурнага Калёквіума. Арганізатары трохі непакоіліся, ці збяруцца людзі, бо напярэдадні страйкавалі транспартнікі, і афіцыйныя запрашэнні маглі не трапіць да адрасатаў. Мелася, праўда, спадзяванне на традыцыйную брашурку «Культурмазаік», у якой насельніцтва інфармавалася пра ўсе канцэрты, выставы, сустрэчы са славутасцямі, прагулкі-экскурсіі па гістарычных мясцінах, запланаваныя з траўня па ліпень. Значыліся там і беларускія вечары-чытанні з удакладненнем, калі ды дзе яны адбудуцца і хто прыме ў іх удзел. «Нашыя людзі не галодныя на падобныя мерапрыемствы, маем даволі багаты выбар, дзе і як правесці свой вольны час. Дай Бог, каб хоць чалавек 15—20 прыйшло, а калі 30 — дык гэта ўжо і занадта!» — як бы апраўдваючыся, з добрай усмешкай тлумачылі нам гаспадары.

Калі а дваццатай гадзіне мы з'явіліся ў зале, там у крэслах ужо сядзелі дзесяткі тры чалавек. Намеснік дырэктара ЛК спадар Альфрэд-Свен коратка пазнаёміў прысутных з усёй пісьменніцкай групай і перадаў мікрафон спадару Норберту Рандаву. Беларускай грамадскасці не ўпершыню чуць гэтае імя. Паэт, перакладчык, русіст, адзін з лепшых у Германіі балгарыстаў, Норберт Рандаў ужо даўно, асабліва пасля таго як яго сястра Гундула выйшла замуж за беларуса, перакладчыка Уладзіміра Чапегу, праяўляе глыбокую цікавасць да беларускага народа і яго культуры. Ім перакладзена на нямецкую мову шмат мастацкіх твораў як класікаў нашай літаратуры, так і сучасных пісьменнікаў — тых жа Быкава, Кудраўца, Адамчыка, Іпатавай. Менавіта ад Норберта Рандава зыходзіла ідэя беларускага Тыдня, а гарадскі Сенат выдзеліў грошы на ажыццяўленне праграмы, пра што парупіўся спадар Янэцкі. Яшчэ адзін доказ таго, што культурнае ўзаемаўзбагачэн-

# І ёсць, і няма...

## Летнія развагі пра музычныя спектаклі для дзяцей

КАМЕРЦЫЙНАЯ хваля ўсё шырэй ахоплівае наша жыццё. Не выключэнне і сфера музычнага выхавання. Тут стан такі, што дзяцей вучыць ужо не па кішэні многім бацькам (толькі піяніна, неабходная рэч для музыканта, каштуе ў межах 25—35 тысяч рублёў. Значна ўзрасла і плата за навучанне ў музычных школах). Зрэшты, тут у нас усё як у людзей. Атрыманне прафесіі ў цывілізаваных краінах — справа асабістая, прыватная. Аднак у шырокім сэнсе музычнае выхаванне дзяцей як частка развіцця эстэтычнай культуры грамадства там справа ўжо не прыватная, а дзяржаўная.

А як будзе ў нас?

Яшчэ некалькі гадоў таму гэтая тэма не сыходзіла з вуснаў дзеячаў культуры, са старонак газет і часопісаў. І вось — поўнае зацішша. Але хіба гэтая праблема не страціла актуальнасці і сёння?

Мастацкае выхаванне дзяцей немагчыма без наведвання тэатра ці канцэртнай залы. Выхаванне сваёй маленькай дачкі я і пачаў са знаёмства з музычным тэатрам. Мы ўбачылі амаль усе прэм'ерныя спектаклі Мінска. Адразу скажу, што пра дзяцей мы яшчэ не забыліся, і каштуе наведванне тэатра для іх нядорага. Неблагі стан і дзяцячай афішы Мінска. Але засталося і адчуванне нечага няпоўнага, недаробленага. Быццам і крочым мы дакладным шляхам, а ўсё яшчэ недзе напаўдарозе да мэты, а можа, і ў пачатку. Пра гэта і захацелася паразважаць.

Музычныя спектаклі для дзяцей у нашай сталіцы ставяць два «спецыялізаваныя» мастацкія калектывы: дзіцячы музычны тэатр-студыя ДАВТа і дзіцячы музычны тэатр-студыя «Казка».

У оперным тэатры пастаноўка нядзельных спектакляў для малодшых гледачоў — даўняя традыцыя. З 50-х гадоў оперныя спевакі зацікаўлена іграюць для маленькіх казкі. Але сёння сітуацыя іншая: галоўныя выканаўцы музычнага тэатра-студыі — дзеці. Тым самым ДАВТ вырашае не толькі задачы дзіцячага музычнага выхавання, але і ўласныя — многія «дарослыя» спектаклі выкарыстоўваюць дзіцячыя галасы. Такім чынам тут ва ўзаемаадносінах «бацькоў і дзяцей» пануе згода, узаемадапамога, што вельмі прыемна.

Малады тэатр-студыя ажыццявіў на опернай сцэне дзве прэм'еры —«Пітэр Пэн» А. Будзько і «Кот у ботах» Ц. Кюі. Заслуга кіраўніцтва студыі — высокі ўзровень падрыхтоўкі юных выканаўцаў. Дзеці спяваюць чыста, даволі нязмушаныя ў руху, зацікаўлена іграюць свае ролі. Дый рэпертуар нетрадыцыйны. «Пітэр Пэн» А. Будзько — адзіны ў афішы Мінска музычна-сцэнічны твор беларускага кампазітара для дзяцей. У дадзеным выпадку кампазітара маладога, які прадставіў на суд гледача сваю першую працу для тэатра. У гэтай партытуры прываблівае меладычнасць музыкі, яе даходлівасць, прастата. Дзеці жвава рэагуюць на экзатычныя мелодыі, заснаваныя на джазавых і лацінаамерыканскіх рытмах: нумары піратаў, індзейцаў. Мае партытура і чыста «беларускі» недахоп — як у большасці нацыянальных опер тут выяўляецца слабае валоданне музычна-драматычнай формай. У драматургічных адносінах спектакль губляе з цягам часу тэмпарытм, робіцца нудным і нецікавым. У яго па сутнасці няма фіналу. Агульнае ўражанне — што гэтай пастаноўцы бракуе старанней апрацаванасці дэталяў, усё тут робіцца павярхоўна. Гэта датычыцца і мастацкага афармлення, і пастаноўкі танцаў, і масавых сцэн. Быццам не хапіла сродкаў, часу папрацаваць з маладым кампазітарам, мастаком. з дзецьмі,— давесці спектакль да ладу. (Зрэшты крытычныя закіды ў бок «Пітэра Пэна» друкаваліся ў «ЛіМе» і неўзабаве пасля прэм'еры).

**«Кот у ботах» Ц. Кюі таксама выконваюць дзеці. Прафесійныя салісты тут толькі ў ролях Караля і Людаеда. Па пастановачным узроўні гэты спектакль вышэй за першы. Яго дэкарацыі ў светлых і цёплых колерах прывабныя, нагадваюць дзецям афармленне любімых кніжак, вядомых казак. Добра «іграе» заслона — «маркіза»: калі яна падымаецца, то ўзнікае эфект, быццам відарыс растае. Прываблівають старанна прадуманыя пастаноўшчыкамі мізансцэны дзяцей, арганічнасць іх паводзін і спеваў у спектаклі. Праўда, у музычнай казцы Ц. Кюі вельмі значная роля размоўных эпізодаў. Яны-то і «садзяць» спектакль, які таксама як і «Пітэр Пэн» губляе тэмпарытм к фіналу. Пачатак II акта, дзе шмат матывацыйных размоў (адзначу і няўдалае для ўспрымання дзяцей вырашэнне эпізода з касцамі, якія знаходзяцца па-за сцэнай, а з імі вядуць гаворку Кот і Кароль), напышлівы і сумны. Відаць, асаблівасці лібрэта твора дарэчы было б патлумачыць перад спектаклем, тым больш, што ў ДАВТа такая традыцыя існавала з даўняга часу. І дзеянне было б больш зразумелым для дзяцей, і не трэба было б пастаноўшчыкам столькі намаганняў траціць, каб растлумачыць, як Глінскі-Папялінскі зрабіўся маркізам Карабасам. Калі ж прычына ў жаданні захаваць партытуру Ц. Кюі, дык... адважыліся ж стваральнікі спектакля ўвесці ў пастаноўку ламбаду й іншыя «сучаснасці»! Наогул жа гэткі невялічкі твор аднаго з прадстаўнікоў «магутнай кучкі» неяк губляецца ў золата-мармуровым манументальным гмаху ДАВТа. Відавочна, што гэтая партытура мала прыдатная для ягонай сцэны, бо разлічвалася кампазітарам на зусім іншыя ўмовы выканання. Зноў у дзіцячым музычным тэатры-студыі атрымалася штосьці не да канца прадуманае і зробленае.**

ТЭАТР-СТУДЫЯ «Казка», як вядома, дае свае спектаклі ў будынку тэатра музычнай камедыі. Тут узаемаадносіны паміж дзіцячым і дарослым калектывамі больш складаныя. У мінскай афішы Дзіцячы тэатр-студыя «Казка»— самастойная творчая адзінка, якая пачала сваю дзейнасць у кастрычніку 1991 г. Мае свой штат, бюджэт; знаходзіцца на гасразліку, і выканаўцы працуюць тут на кантрактнай аснове. Калектыў існуе не толькі без уласнага будынка, але і без датацыі. Праўда, тэатр музычнай камедыі не бярэ са студыі арэндную плату, дапамагае ў вырабе дэкарацый, касцюмаў. Але ўмовы для творчасці цяжкія. Рэпеціруюць артысты ў «фортачкі», працуюць на сапраўдным энтузіязме (напрыклад, у красавіку месячны заробак канцэртмайстра ў студыі склаў дзвесце рублёў). Тэатр-студыя заклапочаны адным: толькі б выжыць!

Далёка не «дзіцячыя» клопаты ў «Казкі», якая быццам і ёсць, і няма. А тым не менш, ставіць спектаклі. «Стойкі алавяны салдацік» і «Гісторыя Кая і Герды» (абодва творы С. Баневіча)— дастаткова цікавыя. «Стойкі алавяны салдацік», хоць мае недахопы ў выкананні, афармленні, добра ўспрымаецца дзецьмі. «Гісторыя Кая і Герды»— спектакль больш высокага мастацкага ўзроўню. Партытура С. Баневіча опернага плана, вымагае высокай вакальна-аркестравай падрыхтоўкі калектыву. Тут звяртае на сябе ўвагу старанная праца дырыжора (Г. Аляксандраў) над дыкцыяй і інтанацыяй артыстаў. Спектакль прадуманы ў драматургічных адносінах, роўны і па тэмпарытме, і па выканаўчым узроўні, што спрые яго поспеху не толькі ў маленькага гледача. Хораша зробленыя дэкарацыі адпавядаюць асаблівай скандынаўскай атмасферы казак Андэрсена. Немалаважна, што спектаклям тэатра-студыі «Казка» папярэднічаюць расповяды пра твор: робяць гэта музыказнаўцы, студэнты.

Нягледзячы на хісткія ўмовы існавання, «Казка» шукае свае формы зносін з маленькім гледачом, шукае і спонсараў, ладзіць кантакты з дзеячамі тэатра. Вынікам творчай сувязі з супрацоўнікамі Брытэнаўскага цэнтра, што ў Вялікабрытаніі, з'явілася пастаноўка спектакля англійскага кампазітара Д. Рансуіка «Чараўнік». Тут, як у вядомых творах Б. Брытэна, кампазітарам створаны толькі пралог ды эпілог і прапанавана сюжэтная канва дзеяння. Спектакль жа нараджаецца як вынік дзіцячай творчасці, фантазіі. Сюжэт яго просты. Каб святкаваць дзень нараджэння настаўніка, дзецям трэба зрабіць торт, але няма цукровай пудры, журавінаў, рушніка... Усё гэта яны знаходзяць на Паўночным полюсе, у краіне Журавініі, у космасе. Дзеці пераадольваюць перашкоды, набываюць новых сяброў, усё заканчваецца добра і радасна.

**Для нас нязвыкла, што тут англа-саксонская традыцыя святочнага торта мудрагеліста перапляліся з атрыбутамі беларускага застолля, такімі, як рушнік, журавіны. Сумяшчэнне ў пастаноўцы традыцый, моў (англійскай, беларускай) тым не менш успрымаецца без супраціўлення, як знак агульначалавечага дома, яднання ўсіх дзяцей на зямлі. У гэтых адносінах спектакль цалкам удаўся. Ён адлюстраваў і еднасць агульначалавечых каштоўнасцей, і жаданне прычыніцца да іншай культуры. Не памылюся, калі адзначу вялікую каштоўнасць гэтай пастаноўкі і для маленькіх выканаўцаў, і для педагогаў, музыкантаў. У стварэнні спектакля ўдзельнічалі сем школ Мінска, прычым агульнаадукацыйных (кожная з іх імправізавала ў сваім «кавалку», і не без поспеху).**

**Аднак выявіліся і недахопы: у эстэтычным выхаванні нашай моладзі, наогул у дзіцячай культуры. Шчыра кажучы, сапраўднай імправізацыі, палёту дзіцячай фантазіі я тут не адчуў. На сцэне быў дастаткова вядомы паводле канцэртаў школьнай мастацкай самадзейнасці набор песень і танцаў. У адных выпадках больш разнастайны, у другіх — менш. Дзеці паказвалі, што яны ўмеюць, вельмі стараліся, але засталіся ў межах традыцый, штампаў, выглядалі «заціснутымі». Такім чынам чарадзейства творчасці, якое дазваляе ўзнесціся над штодзённасцю, раскрыць сябе (а такая, на мой погляд, галоўная мэта англійскіх аўтараў), у поўнай меры не адбылося.**

ВІДАВОЧНА, што ў дзіцячай музычна-тэатральнай справе Мінска адбіліся многія праблемы нашага сучаснага грамадства. Тым не менш адчувальны і станоўчы рух. Гэта плод намаганняў многіх людзей: энтузіястаў ад тэатра, дзеячаў культуры, нават непапулярных сёння міністэрстваў і ўстаноў. Напрыклад, на прэм'еру «Чараўніка» Міністэрства культуры выдаткавала 100 тыс. рублёў. Выклікае павагу й тое, што музычныя тэатры «прыгрэлі» ў сябе дзіцячыя студыі, дапамагаюць ім, як могуць.

Аднак сам факт, што ў суверэннай Беларусі няма дзяржаўнага дзіцячага музычнага тэатра, успрымаецца грамадскасцю ўжо менш балюча, чым раней. Дзейнічае распаўсюджаная псіхалогія: ёсць нешта, ну і добра, а там паглядзім. Людзі, якія зацікаўлены развіццём дзіцячай музычна-тэатральнай справы, змардаваныя блуканнем «па добрых дзядзьках». Тыповая для нашага грамадства з'ява — абяцаюць усё і нічога не робяць — квітнее буйной квеценню. У выніку— пралікі: як мастацкія, так і грамадскія, а шырэй — дзяржаўныя. Тое, што «Кот у ботах» Ц. Кюі выглядае на сцэне ДАВТа іншародна і як нешта несур'ёзнае, — яскравы прыклад. Шмат гаварылася пра неабходнасць камернай сцэны для адпаведных пастановак опернага калектыву. Функцыянаванне дзіцячых спектакляў таксама мае адпаведныя асаблівасці: малюсенькі твор Ц. Кюі «патануў» у раскошнай зале.

Тым не менш кіраўнікам тэатра-студыі ДАВТа трэба аддаць належнае. Яны змаглі намацаць забытыя лініі цеснага спляцення культуры славянскіх народаў. Выбар музычнай казкі Ц. Кюі для музычнага тэатра Беларусі невыпадковы. Кампазітар — наш зямляк. Ён нарадзіўся ў Вільні, вучыўся у С. Манюшкі. Яго музычныя казкі ўзніклі ў выніку знаёмства з дзейнасцю Н. Далматавай, энтузіяста дзіцячага эстэтычнага выхавання перадрэвалюцыйнай Расіі. Паказальна, што творы Ц. Кюі ставіліся на Беларусі ў 20-я гады сіламі мастацкай самадзейнасці, і няёмка, што ў наш адукаваны час тонкасці ўзнікнення і функцыянавання гэтай партытуры не былі ўлічаныя.

Ніякавата дзецям у будынку ДАВТа і ў бытавым плане. Тут прычына не толькі ў манументальным архітэктурным стылі тэатра. Яны тут — не гаспадары. І прылаўкі ў буфеце высокія, і, выбачайце, туалет непрыстасаваны, і білецёрка не дазваляе гарэзаваць, зазірнуць у аркестравую яму (а там цікава, дый карысна пазнаёміцца з музычнымі інструментамі, дзецям трэба да іх дакрануцца, паслухаць тлумачэнні музыкантаў, нават пайграць). А дзе выстаўкі, сябры-педагогі, лялькі і гульні — той эстэтычна-выхаваўчы комплекс, трапіўшы куды, дзеці назаўсёды палюбяць музыку, тэатр, казку?

У Мінску ў свой час быў створаны дзіцячы эстэтычны цэнтр, для якога спектаклі музычных студый маглі б зрабіцца сапраўдным «палігонам» для разгортвання справы, выпрабавання методык, ажыццяўлення творчых задум. Дзе там! Нічога гэтага няма, наадварот, ведаю, што тэатр-студыя «Казка» марна вядзе з дырэктарам цэнтра У. Іскрыкам перамовы наконт дапамогі (размова пра некалькі тысяч рублёў!). Ды і не ў адных грашах справа. Справа ў яднанні дзейнасці, канцэнтрацыі намаганняў.

Скупы плаціць двойчы. І мы, калі жадаем, як нам завяшчаў паэт, «людзьмі звацца», то і рабіць павінны ўсё па-людску. Напрыклад, англічане жадаюць бачыць сваіх нашчадкаў людзьмі творчымі, здольнымі разгарнуць сваю духоўную моц, а гэта, між іншым, зарука і ўкараненне новых тэхналогій, і ўсебаковага прагрэсу грамадства. Мы ж, як і раней, робім усё напаўсілы, напаўжадання. Таму і вынікі ў нас адпаведныя. І ёсць, і няма...

Ігар ГЛУШАКОЎ.

ЗАМЕСТ РЭПЛІКІ

# А КАМЕНТАРЫЙ УСЁ Ж ПРОСІЦЦА

**Даволі ёмістая брашура В. Няфёдава «Гутаркі з мітрапалітам Філарэтам» некалькі месяцаў як патрапіла ў кнігарні рэспублікі. Брашура на рускай мове, немалы наклад — 23 тысячы асобнікаў, добрая папера, якасны друк, чорна-белыя і каляровыя фотаздымкі. Хай бы ўсё, што выдае «Полымя», было на такім узроўні!**

**Большасць, калі не ўсё, з надрукаванага ў «Гутарках...» ужо вядома па перыядычным друку, аднак, як яно звычайна бывае, сабранае пад адною вокладкаю нібыта набывае новую якасць. Мітрапаліт Філарэт паўстае перад чытачом як выдатны рэлігійны дзеяч, разумны палітык, асцярожны дыпламат, і, пры ўсім гэтым, як асоба супярэчлівая.**

**Яно і не дзіўна, бо ён прадстаўляе на Беларусі Рускую Праваслаўную Царкву, а яе статус у святле дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь даволі-такі двухсэнсоўны. Як не можа ўрад суверэннай дзяржавы падпарадкоўвацца прэзідэнту ці прэм'ер-міністру іншай краіны, так і праваслаўная царква на Беларусі (тым болей, што яна прэтэндуе на статус дзяржаўнай царквы) не можа падпарадкоўвацца Маскве. Гэта супярэчыць здароваму сэнсу і нацыянальным інтарэсам беларускага народа. Праўда, Беларускі Экзархат Маскоўскага Патрыярхата носіць афіцыйны назоў Беларуская Праваслаўная Царква; але ж уладыка Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі, мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, па-ранейшаму мае вышэйшае начальства ў асобе патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі.**

**Зрэшты, увесь змест «Гутарак...» мае мэтай замацаваць існуючую канфесійна-моўную сітуацыю на Беларусі, захаваць сённяшні статус Рускай Праваслаўнай Царквы ў нашай рэспубліцы, абараніць ідэю «трыадзінства» рускага народа. Трэба аддаць належнае мітрапаліту Філарэту як дыпламату. Ён гаворыць выключна «правільныя» словы і «зачапіцца» за штосьці-небудзь прыдзірліваму крытыку амаль што немагчыма. Хто ж супраць міру ва ўсім свеце, нацыянальнай і міжнацыянальнай згоды, духоўнага адраджэння і хрысціянскай маралі?**

**Цікава было пачуць думкі мітрапаліта адносна моўнай сітуацыі на Беларусі. «Я хотел бы коснуться проблемы двуязычия, а точнее русского языка в нашей республике как средства межнационального общения. На территории Белоруссии живут люди разных национальностей. Кто-то из них будет общаться друг с другом на русском языке... То, что русский язык на огромной территории многим понятен, то, что он стал средством межнационального общения — в этом аспекте его роль и значение незаменимы и исторически обоснованы» — ці не адчуваецца тут расійскага вялікадзяржаўнага падтэксту?**

**Мітрапаліт Філарэт быў у складзе ўрадавай дэлегацыі падчас візіту Станіслава Шушкевіча ў Рэспубліку Польшча. Падчас сустрэч з дзяржаўнымі дзеячамі Польшчы, а таксама з беларусамі Беласточчыны ён карыстаўся выключна рускай мовай. На рускай мове быў праведзены і абрад асвячэння пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Ці патрэбны да гэтага факта каментарыі?..**

П. ВАСІЛЕЎСКІ.

# «Раба бяздомная, раба пакутная...»

У гісторыі няма пакуль ніводнай сур'ёзнай гіпотэзы, што на пачатку свайго існавання чалавецтва размаўляла вершамі. Тым не менш гісторыя кожнай літаратуры пачынаецца менавіта з паэзіі, а не прозы. На другаснасць апошняй звярталі ўвагу Б. Эйхенбаум і Ю. Лотман. Тое, што першым узвысілася над звычайнай будзённай гутаркай, было вершам. З вершаў пачалося і нараджэнне новай беларускай літаратуры ў XX ст. Хтосьці з пісьменнікаў тольні пачаў свой творчы шлях паэзіяй, нехта ўжо ніколі не парываў з ёй сувязі. Для В. Ластоўскага, тытана беларускага Адраджэння, у творчасці першынствавала не форма, а ідэя—былой велічы Беларусі, яе багатага і плённага мінулага. З мастацкім увасабленнем ідэі чытач мог пазнаёміцца ў некаторых вернутых творах—аповесці «Лабірынты», апавяданнях «Прывід» і «Цмок», драматычным абразку «Адзінокі», навуковых артыкулах. Яшчэ чакаюць свайго часу славутая «Кароткая гісторыя Беларусі», «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі», мастацкія нарысы, пераклады — ад «Песні песняў» да паданняў Індыі. Аднак і гэта не ўсё—В. Ластоўскі быў яшчэ і паэтам. Яго паэзія стала адлюстраваннем беларускага менталітэту, пра які Вацлаў Юстынавіч пісаў у нарысе «Троцкі замак»: «І блізкімі, і роднымі здаліся мне насяляўшыя калісьці гэты замак пакаленьні. Яны, як і мы, жылі і мучыліся на ўзьмежжы двох сьветаў, двох культур, двох процілеглых сабе светапоглядаў, уяўленьняў. Яны не маглі прыклеіцца да ўсходу, ані прымірыцца з заходам. І ў сьвядомасьці прамігнула моднае ад нейкага часу слова «Еўразія». Мысьль стропнулася як спалошаны птах і стала біцца аб страніцы пажоўклых, забытых, нікому не патрэбных у клуме рэальнасці, краёвых летапісаў, шукаючы разгадкі. І перад вачыма душы маёй доўгім сьцягам паплылі волаты мінуўшчыны. Вялічэзныя абразы распачнага змаганьня з хіжацкім духам заходу, які прыходзіў сюды прыкрыты белым бурносам аздобленым эмблемай крыжа, сеяць морд і зьнішчэньне. Адкінутыя дзікім усходам пляцоўкі крыўскага і ўкраіннага славянства туліліся да гэтых муроў нясучы свае сьцягі з шасьціканечнымі крыжамі, а разам з імі — магутнасьць». Паэзія В. Ластоўскага, наследванне традыцый М. Багдановіча, сінтэзавала форму Захаду і подых Усходу.

Сёння мы прапаноўваем нізку яго вершаў, надрукаваных у часопісе «Крывіч», рэдактарам і адным з аўтараў якога з'яўляўся В. Ластоўскі. Падаём іх з захаваннем моўных асаблівасцей.

Вацлаў ЛАСТОЎСКІ

## О, Крыўская зямля...

Чаму зьняслаўлена,
свабоды любае
здавён пазбаўлена,
О, Крыўская зямля!
Чаму ты поішся
сьлязмі гаручымі!
чаму ты поўнішся
бядой пякучаю!...
Бо Ты,
зямля-крыві,
не валадарная
і не магутная,
раба бяздомная,
раба пакутная...
Раба,
не валадарная!...
Дык, вось, чаму твой лік
загіджаны, красы пазбаўлены;
дык, вось, чаму Ты, ясная,
зьняслаўлена!
Зьняслаўлена, пакрыўджана,
ў Славян сямьі паніжана...

. . . . . . . . .

Крывёй сыноў Тваіх
куплялі славу гучную
на Грунвальду палёх.
Ад дзікае арды бароначы
Заход
Тваіх байцоў касьцісты
вал палёг!
Безыменнаю, а ўсё-ж Тваёй
крывёй
паліты Хоціма даліны;
і панад Калкаю ракой
Маскальскія нізіны...
Арошаны крывёй Тваіх сыноў
Іпранскі край,
Само-Сьерра, Рэйн, Аара, По,
Сівы Дунай!...
О, так, гаротная, Крыўцы
ламалі косьці за чужую справу;
сваёй крывёй і мазалём
ішлі купляць чужынцам славу!
Сабе-ж! Ды што сабе
жадаці мог правечны раб
чужое думкі!
Найбольш, хіба,
прыгону лепшыя варункі...
Бо, што-ж, калі прывык
чужых багоў
у чужацкай мове славіць,
з чужыны браць чужацкі полер
і чціць чужы на сьцягах колер!
Нясьці свае чужынцам думы
адзетыя ў чужацку шату
і верным быць сваёму кату...
Раба,
не валадарная!...
Дык вось чаму крывец
кару яловую у хлеб мяшаў!
Чужыя-ж каланісты
чысьцейшае зярно
стругамі гналі ў Рыгу...
А нам то што! Дармо.
Паном іх панскі Бог спрыяе.
У нас свайго німа...—
А Дзедка-Дамавік,
той штось гуляе...

. . . . . . . . .

О, Крыўская зямля!
О, волатаў нашчадкі!...

(1924 г., № 1 (7).

## Баяну

Мудрыя прытчы складаў і зычна пяяў ты, Баяне!

Пяяў яшчэ ўчора на вольных, на крыўскіх абшарах, пад гукі вячоўнага звону...

Дагэтуль туляюцца рэхі тых песень,—далёка ад скрушань замковых: у полі, у ройстах, ў кустах у лазовых, што ніцма прыпалі да ролі...

Зычаць яны ў чашках скрупелых, што ў порубах храму Сафіі, у звоне вячорным, што з вежы, над целам чужога тутка Баболі, кліча на Ave Maria...

У показках-казках, у сэрцах збалелых, у подумах-думках нявольнага люду, глыбока таёных у сэрцы...

Вольныя песьні складаў ты, Баяне, і зычна пяяў яшчэ ўчора пра гордасьць народу, пра чэсьць крывічанскага роду.

## Чырвонец

У местовай браме, дзе люд плыве ракой і варта моцная дзень ноч пілнуе, схіліўся я й падняў чырвонец поўнаважны з пад ног людзкіх, — якога перш не бачылі ранейшыя хадзьбіты.

Кругом мяне натоўп зрабіўся.

Казалі мне адны, што я падняў, от, сьвежую іх згубу... Другія, — што я ня першы звочыў, што дзель яны павінны ўзяць з маёй находкі.

Старожы-ж, каб сагнаць натоўп, усім крычалі, што я місьцюк, што я кастыг за пенядзь выдаю: «бо хто на бітым шляху па золаце таптаў бы чакаючы «яго» прыходу з падарожы?!

І ўсе паверылі старожы...

## У час аблогі

На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, я горад збудаваў.

Замацаваў яго дубоваю сьцяной, байніцамі, на зводах мост уздоймны збудаваў.

У клеці зьвёз усякага дабра: —калі-б на грод лягла аблога...

І вояў зрадных, лжывых, я разьлічыў, каб з вернаю дружынай толькі дзяліць мой белы й чорны дзень...

І, от, нахлынуў вораг многі...

Ударыў я у звон трывожны. Дзынеў патужна цяжкі сьпіж...

Аднак, на клік мой зоўны, ніхто ка мне не пасьпяшыў:

У горадзе маім — такім мацоўным — адзін я быў!..

## Падарожнік

Я клункі ўжо злажыў і сукатаю кульбаю падпершыся гляджу на раздарожжы. Шляхі скрозь хомарам пакрыты... А ўкруг мяне стаяць старожы гатовыя вароты расчыніць, калі я мыта адплачу душы маей аздобамі.

Панукаю вісіць штодзенны боль няўнімны... Ідзі! кваліць дзіцятка ў калыбцы. Ідзі сачыць зьмяюга падкалодны. Ах, як душы ад брамаў тых халодна!..

Магілішчы кругом... за кождай брамаю капец... Калі-ж, калі канец трудлівай будзе падарожы?

## На хрэзьбінах

У гасподзе сьветлай, на седзішчы высокім я гасьціў у дзень урочысты яго нарадзін. Ды плакала душа, што жоскі троп жыцьця гатуе ўжо завалы на сьцежках бадавейных.

Тры ветніцы сягоньня, з намі тут, запрадкі жыцьцёвай нітачкі тваёй спраўляюць. Праклюдныя старухі! Ім ведама ўсё: й не зжахнуцца ж ані! Спакойнаю рукой бяруць у пальцы смычку і цягнуць ніць жыцця на верацяно.

Круціся, гэй круціся, верацёнца! Да сонца раз, у цемру раз, усё кругом, кругом... і ўсё бліжэй да долу.

Музыка грае тост. У чарах пеніцца віно. І ўсё, у такт, сьвярліць у мозгу мысьль: ці сьлёз, якія будзе ліць ў жыцьці наш навародак, гасьцей хапіла-б напаіць і хто іх будзе піць?..

Тры ветніцы прадуць і ніць усё струнчэй. Званіце чарамі, іграйце тост! Хутчэй!!

(ліпень 1926 г.—сакавік 1927 г., № 12)

Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў да друку Лявона ЮРЭВІЧА.

# «Я не палітык, і ніколі ім не была...»

(Пачатак на стар. 5).

Але гэткі ўжо быў Гарэцкі ў дачыненні й да іншых і да сябе —суровы, справядлівы й вельмі паважаны. Прынамсі, гэткім ён заўсёды быў у гімназіі. Пазнаць жа ягоную сапраўдную істоту, тое, што ён адчуваў і думаў, я ніколі не мела нагоды. Завялікая розніца дзяліла мяне, нясмелую 17-гадовую дзяўчыну-вучаніцу, ад класнага настаўніка й прызнанага беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага. Як шкада, што пасля, падросшы, я ўжо не сустрэла яго на сваім шляху!

Два гады навукі ў гімназіі прамінулі вельмі хутка. Дарма што гэта былі найцяжэйшыя ў матэрыяльным дачыненні гады майго жыцця й што вельмі часта на працягу гэтых гадоў даводзілася мне класціся спаць без вячэры ці выходзіць у гімназію не паснедаўшы,— я заўсёды ўспамінаю іх з нейкай асаблівай любасцю і ўсхваляваннем. Мо таму, што тут якраз я сталася паэткаю, прынамсі, зрабіла пачын...

(«Беларускі сьвет», №21, 1989).

●

Дапаўняю артыкул адказамі на некаторыя пастаўленыя пытанні.

Думаю, што з'яваю ў беларускай і сусветнай літаратуры ніхто з нас не стаўся яшчэ, хоць і мае ўжо месца ў беларускай культуры. Савецкую беларускую літаратуру люблю, год 20—25 таму мела магчымасць яе чытаць стала. Але выехаўшы па сямейных справах з Нью-Ёрка, магчымасцяў гэткіх ужо не маю, хіба прыпадкам, урыўкамі...

Першы зборнік маіх вершаў — «Пад сінім небам», а ў 30-х гадах быў падрыхтаваны да друку й другі «Жоўтая восень». Больш як 15 год мне давялося жыць на чужыне, у Заходняй Польшчы. Але штогод улетку я гасцявала з маімі малымі сынамі ў Беларусі ў дзеда Вінцука Кушаля, у Валожыншчыне. Тут, у чыста беларускім сялянскім асяроддзі, я цесна зжылася з Беларуссю, калі можна так сказаць, ужо не ў тэорыі, а на практыцы, зжылася з найчысцейшаю беларускаю моваю, з беларускім жыццём і прыродаю. Мужавы бацька — стары Кушаль — быў найшчырэйшым беларускім патрыётам, хоць палітыкай ніколі не займаўся і ў жыцці сваім ніколі нікуды не выязджаў далей за Валожын, Івянец, Ракаў ці Маладэчна.

1939 год палажыў канец майму спакойнаму, але аднастайнаму жыццю. Муж у першым жа дню пайшоў на вайну, і я доўгі час аб ім нічога не ведала. Я ж з сынам, пасля рознае цяганіны, апынулася ў Вілейцы, адкуль мы й былі вывезеныя бальшавікамі ў Казахстан напачатку красавіка 1940 г. Шчаслівы выпадак хацеў, каб схудзелыя да непазнання, начорна апаленыя сухімі казахстанскімі вятрамі, мы вярнуліся на бацькаўшчыну, на дзедаву гаспадарку ў Валожыншчыне, яшчэ, на шчасце, не цалкам «раскулачаную», у травені 1941 года. А не паспелі мы разгледзецца, як пачалася 2-я Сусветная вайна, якая ледзьве не каштавала мне жыцця, але затое й штурханула мяне да новае творчасці. Напісана было шмат вершаў, якія ўвайшлі ў зборнік «Сягоння», выдадзены ў Менску ў 1944 г., напісаны лібрэта да двух опер — «Лясное возера» і «Усяслаў Чарадзей» (музыка нябожчыка-кампазітара Міколы Шчаглова), зроблена шмат перакладаў, між іншага — «Затануты Звон» Г. Гаўптмана.

Ваенныя падзеі ды горкія дазнанні апошніх мінулых год прымусілі мяне пакінуць і Менск, і працу ў чэрвені 1944 года. 1945 г. сустрэў мяне з сынам у Берліне, а тады ў невялікім гарадку Амберг, у Баварыі, дзе мы й прычакалі канца вайны. З мужам я сустрэлася зноў адно ўлетку 1945 года. Далейшыя гады пісанню вершаў не спрыялі. Правялі мы іх у лагерах для г. з. «перамешчаных асобаў» (ДР). А калі пачаўся выезд гэтых «перамешчаных асобаў» у розныя краіны свету, як Аўстралія, Амерыка, паўдзённая Амерыка, Бельгія, Ангельшчына, Францыя, мы трапілі ў ЗША, куды й прыбылі 15 чэрвеня 1950 г. Трэба было пачынаць новае жыццё, шукаць працы, уладкоўвацца. Нас, праўда, прывезлі, але далей даваць сабе рады мы мусілі ўжо самі, ніхто ў тыя часы нам не дапамагаў. Але, дзякуй Богу, ужо праз 2—3 дні па прыездзе я пакавала ў слоікі агуркі на фабрыцы кансерваў, а сын паліраваў сталы на нейкай нямецкай фабрыцы мэблі. Колькі тыдняў пасля уладкаваўся на працу й муж, як «elevator operator», абслугоўваў ліфт у Medical Center у Брукліне. Ужо праз пару месяцаў мы пачалі станавіцца на ногі, займелі сваю невялікую кватэру, й жыццё паплыло сваім чарадом, і сваё, прыватнае, і грамадскае, беларускае, бо прыехала нас ужо ў Амерыку (пераважна ў Нью-Ёрк і ваколіцы) досыць вялікая беларуская грамада. Усе стараліся трымацца разам, ці, прынамсі, трымаць сталую лучнасць. Пачалі тварыцца свае, беларускія арганізацыі: Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне, пасля — Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ды інш. Трымаемся, дзякуй Богу, мы сціслай грамадой і цяпер, калі створана тут ужо «Беларусь у Амерыцы» і ў Аўстраліі, і ў іншых краінах. І ніякага дзіва няма, што мы «захавалі», як вы пішаце ў адным з вашых пытанняў, беларускую мову. Міжсобку мы паслугоўваемся ёю штодня, заўсёды, яна ў нас «жывая» й тут.

Думаю, што гэтая мая зацемка дапаможа вам у вашай працы. Я не палітык, ніколі ім не была й нат больш — палітыкі не люблю, але «феномену замежжа», як Вы яго называеце, на маю думку, мо не было б наогул, каб не папярэдзілі яго гады нямецкае акупацыі. Гэтыя жахлівыя, нялюдскія гады, яны каштавалі нашай бацькаўшчыне і ўсім тым, хто іх перажыў, безліч ахвяраў, як гэта ні дзіўна, а прычыніліся ў вялікай меры да адраджэння беларускае нацыянальнае сведамасці, нішчанае і дужанае і на ўсходзе й на захадзе (і ў Польшчы, і ў СССР). Немцы ж ані не цікавіліся, якой мовай паняволеныя імі людзі гавораць, чытаюць, пішуць, нікога за гэта не каралі, і таму беларускія патрыёты адразу з гэтага скарысталі й узяліся за працу, пачалі намагацца перад акупацыйнымі ўладамі дазволу на адкрыццё беларускіх школ, хай сабе адно пачатковых пакуль што, на ладжанне культурных імпрэзаў, хораў, канцэртаў і т. д. І здарылася, дарма што вайна, жорсткі прыгнёт, спантанічнае адраджэнне беларускае сведамасці, асабліва ў Заходняй Беларусі. Акупацыя трывала гады 4, але колькі ж было зроблена за гэтыя гады ў галіне нацыянальнае сведамасці, культуры! І вось гадунцы гэтых цяжкіх год якраз і склалі па сканчэнні вайны тую масу, тую хвалю беларускае эміграцыі, што расплылася працягам паваенных гадоў па свеце й складае той «феномен беларускага замежжа», аб якім Вы прыгадваеце. І ацэньваю я яго, ведама, дадатна, бо ён нас з вамі лучыць у адно.

Вы пытаецеся таксама, над чым адмыслова я працую сёння? Дык вось — над нічым адмыслова... і над усім. Мне ж ужо неўзабаве, у верасні, пойдзе 87-ы год! Парадкую «спадчыну» і адгукаюся на ўсё, чым жыве нашая тут беларуская грамада, лаўлю таксама, часам з сумам, часам з радасцю, весткі з бацькаўшчыны — Беларусі.

Жыву я тут далекавата ад большых цэнтраў беларускае эміграцыі, хоць і трымаю з ёю шчыльную лучнасць. Вочы мае ўжо не тыя, што былі, рукі таксама, дык пісаць на машынцы мне цяжка. Спадзяюся, аднак, што маю тут пісаніну вы разбярэце й яна будзе Вам дапамогаю ў вашай працы. А пакуль што — бывайце здаровы. Вашая Н. Арсеннева.

Травень 1990 г.

Публікацыя Леаніда ПРАНЧАКА.

# Жыве Беларусь!

— Раскажыце, калі ласка, адкуль і як, калі ўзнік нацыянальны дэвіз «Жыве Беларусь!» — і што ўкладваецца ў гэта паняцце?

(З пытання студэнтаў II курса гістарычнага факультэта ў перапынку паміж лекцыямі па літаратуры).

Вокліч «Жыве Беларусь!» вяртае нас у далёкія часы яшчэ на пачатку стагоддзя, калі ўпершыню ў зборніку «Жалейка» (выдадзены не пазней 11 (24) сакавіка 1908 года ў Пецярбурзе ў выдавецкай суполцы «Загляне сонца і ў наша аконца») з'явіўся верш Янкі Купалы «Гэта крык, што жыве Беларусь». Выпакутаванае і глыбокавынашанае пачуццё паэта вырываецца з грудзей палымяным патрыятычным крыкам-воклічам, крыкам-верай, крыкам-спагадай, але над усім крыкам-услаўленнем, вітаннем, прадчуваннем, захапленнем, улюбёнасцю, упэўненасцю.

**Ды і што гаварыць! — дзе я толькі гляджу,**
**Бачу родненькі край, сваю матку-зямлю;**
**. . . . . . . . . . . . .**
**А вот як не любіць гэта поле і бор,**
**І зялёны садок, і крыклівую гусь!**
**А што часам тут страшна заенча віхор, —**
**Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!**

Твор звернуты да ўсіх і кожнага. Гэта твор-маналог, але і твор — паэтычная ода Радзіме, Бацькаўшчыне, Беларусі. Ён нібы выдыхнуты з глыбінь народнага духу, выходзіць з душы паэта, ідзе да сэрца, прасякнуты любоўю, напоўнены праўдай і ўдзячнасцю таленавітага і адданага сына, шчаслівага ад таго, што ён жыве на гэтай зямлі, вернага сына-патрыёта маці-Беларусі!

Гэты дэвіз стаў аксіёмай, з'явіўся нібы своеасаблівая формула жыцця беларускага народа, наказам і сцвярджэннем адначасна. Афарыстычны выраз быў падхоплены і развіты ў творчасці іншых паэтаў: у вершы «Жыве Беларусь» Тодара Чарнышэвіча, змешчаным у часопісе «Маладая Беларусь» у 1912 годзе; у празаічнай імпрэсіі паэта і грамадскага дзеяча Фабіяна Шэнтыра «Жыве Беларусь», якая змешчана ў календары «Нашай Нівы».

Верш Т. Чарнышэвіча «Жыве Беларусь!» хочацца прывесці тут цалкам, бо твор з таго часу не перадрукоўваўся і вядомы хіба толькі запісным філолагам, зрэшты, як малавядомае і прозвішча самога аўтара.

**Жыве Беларусь і іскрыцца,**
**У ёй праўда світае агнём!**
**Праснецеся ўсе, каму спіцца,**
**Збярыцеся цесным гуртом.**

**Хутчэй за работу з надзеяй,**
**Гэй, гэй, пагарджаны народ!**
**Устань, агляніся! — ужо днее...**
**За шчасце краіны ўпярод!**

**За звычай радзімы,**
**За родную мову**
**Пасей свае слова**
**Адважна і смела!**

Жыццесцвярджальныя матывы з думкамі аб Беларусі гучаць і ў ласкава-памяркоўным, а разам і трагедыйна-прарочым, заклікальна-горкім, але ўпэўнена-сцвярджальным дэвізе выдаўцоў і творцаў «нашаніўскай» пары «Загляне сонца і ў наша аконца»; пераклікаюцца гэтыя гучныя заявы, якія перамяжоўваюцца з крыкам і болем, з адчаем ад занядбанасці і прыніжанасці краю і чалавека ў ім у творах Цёткі, Я. Коласа, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны і іншых.

Янка Лучына пісаў:

**...Сонца на сук скрозь хмары цёмныя**
**Прагне ясна над нашай нівою.**
**І будуць жыць дзеткі патомныя**
**Добраю доляю, доляй шчасліваю.**

Доўгі час словы «Жыве Беларусь!» былі своеасаблівай формай нацыянальнага прывітання. Яно гучала так, як бы гучалі словы: «Слава Беларусі!» У гэтым вокліччы паядналася ўсё разам: гісторыя і сучаснасць, нашы нялёгкія шляхі да незалежнасці, пакручастыя дарогі да ўзыходжання і нацыянальнай славы, жаданне прабіцца да свету праз тоўшчу стагоддзяў, праз напластаванні заблуджэнняў і прымхаў, праз бар'еры бязвер'я і нацыянальнага нігілізму, праз туман падазронасці і адмаўлення, скрозь схаванае непрыняцце і адкрытую варожасць.

Хацелася б, каб выраз-дэвіз гэты застаўся ў нашым ужытку. Каб зусім справядліва і заслужана мог стаць (ды і даўно стаў ужо!) сапраўды нацыянальным дэвізам беларусаў і Беларусі. Бо не састарэў ён, не прыг-

# ЧАРОТА ВОБЛІК НЕЗАБЫЎНЫ

**Друкуючы згадкі С. СВІРЫДАВА пра сустрэчу ў далёкія 30-я гады з М. Чаротам, скарыстоўваем гэтую нагоду дзеля таго, каб паведаміць чытачу, што якраз днямі аўтару ўспамінаў, старэйшаму беларускаму журналісту і літаратару споўнілася 80 гадоў. «ЛіМ» віншуе Сяргея Аляксеевіча з юбілеем і жадае здароўя і бадзёрасці.**

Зіма ў тым годзе была снежная, марозная. Завеі і моцныя паўночныя вятры намялі сумёты-горы снегу. Ні праехаць, ні прайсці. І ў той дзень, добра памятаю, мяла завіруха. Не дзіва, што вучні з далёкіх вёсак не прыйшлі ў школу. Але ж заняткі ўсё роўна адбыліся. Праўда, у старэйшых класах замест шасці ўрокаў было пяць. Скарацілі заняткі таму, што ў дзве гадзіны дня быў прызначаны сход сельсавецкага актыву, які заўсёды праходзіў у школе, бо ніякага клуба ў той час у цэнтры Беляшкоўскага сельсавета не было.

Нягледзячы на завіруху, актывісты ў вызначаны час запоўнілі невялікую залу школы. Замест дзіцячых галасоў загучала мужчынская і жаночая гамонка. Гадалі, што за прадстаўнік прыедзе з самога Мінска на сход? Старшыні сельсавета Мацвіевічу пазванілі з раёна, што з'явіцца нейкая «важная шышка». А , можа, у такую халадэчу і не з'явіцца?

Раптам дзверы адчыніліся і за клубам халоднага паветра, здаецца, не ўвайшлі, а ўкаціліся два рослыя мужчыны ў чорных да пят кажухах і ў шапках-вушанках. Калі прадстаўнікі паздымалі вушанкі і кажухі і селі ў прэзідыум за школьны стол, у адным з іх я адразу пазнаў прадстаўніка Лёзненскага райкома партыі Барташа з акуратна падстрыжанай чорнай бародкай, з чорнай чупрынай на галаве. На доўгім яго носе месціліся акуляры, з-пад якіх зыркалі туды-сюды няпэўнага колеру вочы. Прадстаўнік жа з цэнтра меў прыгожы з тонкімі абрысамі хударлявы, стомлены твар. Цёмнасінія вочы ўважліва аглядалі прысутных.

Тым часам старшыня сельсавета аб'явіў нараду адкрытай:

— На позве дня ў нас — нарыхтоўка льновалакна. Перш чым даць слова па гэтым пытанні прадстаўніку райкома партыі таварышу Барташу, мушу паведаміць: на нашай нарадзе прысутнічае прадстаўнік ЦК Кампартыі Беларусі таварыш Чарот. Павіншуем жа нашага дарагога госця.

Дружныя воплескі страсанулі сцены старой школы. «Чарот... Чарот...» — паўтарыў я ў думках прозвішча прадстаўніка з Мінска. Няўжо гэта паэт Міхась Чарот? Не, не можа быць, каб такога выдатнага паэта паслалі ў глухамань на льнонарыхтоўкі. Смеху варта! Але адкуль я ведаю гэтага чалавека? Дзе я мог бачыць яго?.. Гэтае пытанне хвалявала мяне на працягу ўсяго сходу.

**Упаўнаважаны райкома гаварыў, як заўсёды (я чуў яго прамовы не адзін раз) узнёсла, эмацыянальна, з надрывам у голасе, часам нават крычаў, махаў у паветры рукой і пагражаў актывістам і сялянам карай.**

**— План ільнонарыхтовак у сельсавеце зрываецца ганебна, — у каторы раз паўтарыў ён, папраўляючы на носе акуляры, — а вы, актывісты Савецкай улады, спіце ў шапку, зміріліся з такім становішчам! Не выяўляеце памочнікаў замаскіраваных кулакоў і класавых ворагаў, якія робяць усё, каб нашкодзіць нам, сарваць ільнонарыхтоўкі, не даць сыравіны льнозаводам. Такое ганебнае становішча мы не пацерпім! Прымем самыя рашучыя захады супраць сабатажнікаў і кулацкіх падпявал, выведзем іх на чыстую ваду, за вуха — і на сонейка...**

Я слухаў, а не спускаў вачэй з Чарота. Мне было цікава назіраць, як ён рэагуе на занадта пагрозлівую прамову Барташа. Чарот сядзеў моўчкі, з засяроджаным, суровым тварам, часам паціскаў плячыма і запісваў нешта ў блакнот. А калі дакладчык скончыў, спытаў у старшыні сельсавета: чаму не выконваецца план па нарыхтоўцы льновалакна? У чым прычына?

**Старшыня, нібы кашлянуўшы ў кулак, растлумачыў. З яго тлумачэнняў выходзіла, што план нарыхтовак сельсавету завышаны, не ўлічаны сёлетні неўраджай лёну.**

**— Аб гэтым я гаварыў і ў раёне, — падкрэсліў ён. — Аб гэтым ведае і таварыш Барташ... Але не падумайце, што я супраць выканання плана. Кроў з носу, а мы яго абавязаны выканаць!**
**— Правільна я кажу? — звярнуўся ён да прысутных.**

**— Правільна! — адгукнуўся нехта.**
**— А дзе ж селяніну лён узяць? — пачуўся нясмелы голас. — Калі ў яго няма...**

**— Вось чуеце, які гнілы настрой? — грозна сказаў Барташ. — У каго сапраўды няма, хай едзе на Смаленшчыну і купіць. Там, кажуць, прадаюць... Ад плана не адступім. Ні на крок...**

**— У каго ёсць к дакладчыку яшчэ пытанні? — спытаў старшыня сельсавета.**

**Я не вытрымаў і спытаў:**
**— А калі і грошай няма, за што ж чалавек купіць?**

**— А табе, настаўнік-камсамолец, не да твару быць кулацкім падпявалам, — абрэзаў мяне Барташ.**

На пытанне, хто хоча яшчэ выказацца — ніхто не адазваўся. Я ведаў: баяліся выступаць і пярэчыць упаўнаважанаму райкома Барташу, тым больш у прысутнасці прадстаўніка з цэнтра. Усе з нецярпеннем чакалі яго выступлення. Што скажа ён?

Чарот устаў з-за стала, абвёў вачыма залу, цяжка ўздыхнуўшы, загаварыў:

**— Што я вам, дарагія таварышы, мушу сказаць? Мушу сказаць: нялёгкая задача перад намі стаіць. План ільнонарыхтовак у вашым сельсавеце сапраўды не выконваецца, можна сказаць, зрываецца. Давайце разам памяркуем, падумаем, як паправіць справу. Толькі рабіць гэта, на маю думку, трэба без крыку, без пагроз і запалохвання. — Чарот павярнуў галаву ў бок Барташа. Барташ шмыгнуў носам, бліснуў злосна акулярамі, апусціў галаву і стаў запісваць нешта ў блакноце. А Чарот тым часам працягваў гаварыць ціха, лагодна, пераканаўча. Раіў прысутным пагаварыць з кожным хлебаробам, які мае лішкі льнотрасты ці валакна, каб прадаў дзяржаве.**

І пасля сходу ён шчыра, задушэўна гаварыў з актывістамі сельсавета. Я ўважліва слухаў яго і ўсё гадаў: паэт ён ці толькі мае аднолькавае прозвішча з ім? І наважыўся ўрэшце спытаць у яго самога. А для большай упэўненасці я рашыў паказаць яму фатаграфію, якая была змешчана ў падручніку па беларускай літаратуры. Калі Чарот накіраваўся да выхаду з класа, я падышоў да яго з разгорнутым падручнікам і нясмела спытаў:

— Скажыце, калі ласка, гэта вы тут на фатаграфіі?

Кінуўшы позірк на фота, ён з усмешкаў сказаў:

— Калі маю з ёю падабенства, значыць, я... — І запытаў: — Значыць, вы — выкладчык беларускай мовы і літаратуры?

Асмялеўшы, я рашыў запрасіць Чарота на абед да сябе. Не паспеў ён адказаць на маё запрашэнне, як да яго з такой жа прапановай звярнуўся старшыня сельсавета. Радасна забілася маё сэрца, калі пачуў: «Дзякуй, таварыш Мацвіевіч, за клопат. Але мяне ўжо запрасіў вось ён...»

Я растлумачыў, што жыву ў адной бяздзетнай бабулі-калгасніцы. Завуць яе цётка Маланння. А муж яе пайшоў з калгаса ў горад на будоўлю.

— А, можа, яна будзе незадаволена, — усумніўся мой спадарожнік, — што прывядзеш няванага госця?

Я растлумачыў, што гаспадыня дужа добрая, ветлівая і будзе рада госцю.

Неўзабаве мы былі на пагорку, на якім маячыў каля ляска адзіны хутар з невялікай хацінай і хлявом. Толькі наблізіліся да хаціны, як адчыніліся ў сенцах дзверы і з іх выглянула цётка Маланння.

— Чаму ж ты, Аляксеевіч, так затрымаўся на абед? — з дакорам спытала.

Я растлумачыў, што быў на нарадзе сельскага актыву і вось прывёў госця на абед.

— З самой сталіцы, з Мінска прыехаў. І ведаеце, хто? Сам знакаміты паэт Міхась Чарот.

— Паэт Чарот? Чула. Сяргей Аляксеевіч расказваў пра вас і вершы чытаў вашы. — Заўсміхалася на ўвесь рот гаспадыня і падала госцю руку. — Дужа рада пазнаёміцца. Міласці просім — за стол.

За сталом Чарот спытаў:

— А скажы, настаўнік, чаму ўпаўнаважаны райкома партыі назваў цябе кулацкім падпявалам?

**Я расказаў такую гісторыю. Было гэта яшчэ восенню ў пачатку навучальнага года. Пасля заняткаў паклікалі мяне ў сельсавет да старшыні. У яго кабінеце сядзеў на канапе і дыміў цыгарэтай Барташ. Убачыўшы мяне, ён устаў з канапы і сказаў настойліва:**
**— Дарогу ў Шусцева ведаеш?**
**Я кіўнуў галавой.**

**— Дык паедзеш туды цвёрдазаданнікаў трэсці? Не выконваюць план хлеба- і бульбанарыхтовак.**

**У той час загад прадстаўніка раёна быў для нас, камсамольцаў, законам, ніхто не мог яго адмяніць.**

**Барташ сеў верхам на гнядога, добрага каня і тузануў вуздэчкай. Конь спорна пайшоў, я ледзь упраўляўся за ім. Потым конь пайшоў цішэй і я пайшоў побач з ім. Барташ спачатку маўчаў, а потым нечакана загаварыў:**

**— Ты, настаўнік, напэўна, зайздросціш мне, што еду на кані. А зайздросціць няма чаго. Каб не гэты конь, даўно б застаўся без ног, скапыціўся б. Бо матляцца даводзіцца па раёне штодня. А цяпер вось райком прымацаваў да вашага сельсавета, самага адсталага ў раёне па нарыхтоўках бульбы. А чаму адстае? А таму, што тут сяляне аднаасобнікі, асабліва заможныя цвёрдазаданнікі, хаваюць хлеб і бульбу, сабатажнікі. Ненавідзяць Савецкую ўладу. А мы з імі цацкаемся, угаворваем, агітуем... Іх не агітаваць трэба, а падразаць пад корань. І ведаеш што: каб мне далі поўную ўладу, усіх бы іх адправіў туды, куды і кулакоў... Бачу: ты скрывіў твар, не згодзен?**

**Я смела сказаў яму, што не згодзен. Нагадаў яму выказванні Леніна пра селяніна-серадняка як саюзніка пралетарыяту. Нагадаў прозвішчы сялянсераднякоў Волкава, Бабкова, Грачышнікава, якія не карысталіся наёмнай працай, не мелі парабкаў, а іх незаконна раскулачылі і выслалі з вёсак.**

**Барташ спыніў каня, уставіўся на мяне сваімі акулярамі, злосна сказаў:**

**— Дык ты, аказваецца, хоць і выкладаеш грамадазнаўства, ведаеш законы, абараняеш кулакоў, іх падпявала... Глядзі ў мяне! — Ён памахаў бізуном каля майго твару. — Глядзі, камсамолец!**

...— Так, — цяжка ўздыхнуў Чарот. Ён дастаў з кішэні пачак цыгарэт. Закурыў і моцна зацягнуўся, ажно закашляўся.

— І старшыню нашага калгаса застрэліў. Селязнёва, — загаварыла гаспадыня.

лушыўся той «енк-крык», не меней смыліць сэрца сёння ад заклапочанасці пра лёс Бацькаўшчыны і яе людзей. Добра было б, калі б гэты выраз-дэвіз з цягам часу стаў проста сімвалічна-рытуальным вітаннем ці неабходнасць у ім сама па сабе адпала б з-за яго відавочнай неадпаведнасці рэальнасці, недарэчнасці, а ўспрымаўся б усмешліва-паблажліва, як пажаданне «жыць» ці «сілы», «здароўя» чалавеку, які і жартам і ўсур'ёз карчы варочае за двух. Але ж нам яшчэ трэба шмат зрабіць, каб жыла, існавала і напаўнялася новым зместам незалежная Беларусь, каб трывала станавілася на ногі і была, як пісаў той жа Купала, «сама сабе гаспадыня», што ніхто і слова не закіне хоць, яна і з мужыкоў, «А як выйшла ў людзі...»

І з гэтай нагоды хацелася б выказаць некаторыя свае меркаванні «Народнай газеце». Думаецца, што варта адкінуць прэч з эпіграфа-закліка пад назвай газеты сарамліва-перайначанае і нейтральна-скупое пажаданне-дэвіз «Жыві, Беларусь!», ад якога хочаш не хочаш, але так і патыхае ўсё ж калі не штучнасцю і аморфнасцю, дык гэткай бутафорска-закамуфляванай сцэнічнай саладжавасцю, салютам, які ўзяты нібыта з часоў піянерскіх вітанняў пампезных формаў.

На нашу думку, варта ўсё ж паставіць дэвіз-афарызм «...жыве Беларусь!» з подпісам — Янка Купала — калі так ужо неабходна, засведчыўшы тым самым, што выраз узяты з твора Я. Купалы, альбо прыводзіць эпіграфам купалаўскі радок цалкам: «Гэта крык, што жыве Беларусь!», у якім выявіўся і боль, і трывога, і надзея, і вера паэта.

Ад сцвярджэння-канстатацыі «Жыве Беларусь!» варта смялей выходзіць «у людзі», да людзей, да народаў Еўропы і свету. Да сцвярджэння-услаўлення «Жыве Беларусь!»

Як мы маглі пераканацца, у выразе «Жыве Беларусь!» гучаць найперш апаэтызаваныя Купалам і іншымі творцамі, выдатнымі сынамі Маці-зямлі, слава і гонар Беларусі, яе мінулае і сённяшняе, яе пакутніцкі, але няскораны і гераічны шлях да незалежнасці і самастойнасці, нязломная, і глыбокая вера ў лепшае будучае, трывалае захапленне жыццём, Праўдай, Харprofitствам, Сонцам, Зямлёю, рэчамі вечнымі і вызначальнымі, услаўленне зямлі і чалавека на ёй, услаўленне і вітанне Новага Дня і Новага Часу, Новага Жыцця.

Прывітаем жа адзін другога «Жыве Беларусь!» і адкажам: — Жыве!

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Белдзяржуніверсітэта.**

# Аляксей КАРПЮК

14 ліпеня 1992 года пасля цяжкай і працяглай хваробы перастала біцца сэрца вядомага беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі, добрага, чулага чалавека Аляксея Карпюка.



Аляксей Нічыпаравіч Карпюк нарадзіўся 14 красавіка 1920 года ў вёсцы Страшава на Беласточчыне. Да вызвалення Заходняй Беларусі скончыў 2 класы Віленскай гімназіі. У 1939—1941 гг. вучыўся ў Навагрудскім педагагічным вучылішчы. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў складзе падпольнай дыверсійнай групы актыўна змагаўся з ворагам, быў камандзірам партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага на Гродзеншчыне. Спазнаў пекла нямецкіх канцлагераў. У 1944—1945 гг. у складзе дзеючай арміі прайшоў з баямі Польшчу і Германію.

Пасля вайны скончыў аддзяленне англійскай мовы Гродзенскага педінстытута, настаўнічаў, быў загадчыкам Сапоцкінскага райана. Працаваў у Гродзенскай абласной газеце, пасля — уласным карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва». З 1977 па 1981 гг. — дырэктар рэспубліканскага музея гісторыі рэлігіі і атэізму і да апошніх дзён узначальваў Гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Упершыню Аляксей Карпюк выступіў у друку ў 1953 годзе — на старонках часопіса «Полымя» была надрукавана яго аповесць «У адным інстытуце». Затым выйшлі зборнікі апавяданняў і аповесцей «Дзве сасны», «Свежая рыба», «Партрэт», кнігі нарысаў «След на зямлі», «Мая Гродзеншчына», аповесці «Данута», «Пушчанская адысея», раман-быль «Вершалінскі рай» і іншыя.

За кнігу прозы «Сучасны канфлікт» яму была прысуджана Літаратурная прэмія Саюза пісьменнікаў Беларусі імя Івана Мележа.

Аповесці і апавяданні Аляксея Карпюка друкаваліся на Украіне, у Расіі, Польшчы, Балгарыі, Германіі і іншых краінах.

Творчасць пісьменніка прасякнута сыноўняй любоўю да роднай зямлі, глыбокай павагай да чалавека працы, болем і трывогай за будучыню. Многія раманы, аповесці, апавяданні маюць аўтабіяграфічны пачатак. У іх пульсуе няўрымслівы характар Аляксея Карпюка — адважнага воіна, змагара за справядлівасць і праўду.

За баявыя заслугі ў часы Вялікай Айчыннай вайны А. Н. Карпюк узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны, медалямі, залатым крыжам ордэна «Віртуці Мілітары» (Польшча).

Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку, сумленным працаўніку, чалавеку высокай прынцыповасці назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**С. С. ШУШКЕВІЧ, В. Ф. КЕБІЧ, М. І. ДЗЯМЧУК, Д. К. АРЦЫМЕНЯ, А. І. БУТЭВІЧ, Я. К. ВАЙТОВІЧ, В. А. ГАЙСЕНАК, П. К. КРАЎЧАНКА, І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, Н. С. ГІЛЕВІЧ, П. Е. ПАНЧАНКА, Я. І. СКУРКО (Максім Танк), І. П. ШАМЯКІН, В. У. АДАМЧЫК, Д. І. БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА, Р. І. БАРАДУЛІН, В. У. БЛАКІТ (Болтач), А. І. ВЯРЦІНСКІ, М. С. ГІЛЬ (Гілевіч), В. М. ГРЫШАНОВІЧ, Г. В. ДАЛІДОВІЧ, А. П. ЖАЛЯЗОЎСКІ, С. І. ЗАКОННІКАЎ, В. В. ЗУЁНАК, В. А. КАВАЛЕНКА, У. А. КАЛЕСНІК, А. П. КУДРАВЕЦ, А. І. МАЛЬДЗІС, П. М. МАКАЛЬ, І. Я. НАВУМЕНКА, У. А. ПАЎЛАЎ, Н. Е. ПАШКЕВІЧ, А. У. ПІСЬМЯНКОЎ, І. М. ПТАШНІКАЎ, Б. І. САЧАНКА, В. П. СУПРУНЧУК, І. Г. ЧЫГРЫНАЎ.**

**— Старшыню застрэліў?! — здзіўлена перапытаў госць.**

І я мусіў расказаць. А было так. З Віцебскай турмы ўцёк адзін селянін-цвёрдазаданнік (прозвішча яго, калі не памыляюся, было Масальскі), пасаджаны быў за невыкананне нарыхтовак. І, казалі, прыйшоў у сваю ж вёску, толькі жыў, хаваючыся, не дома, а ў сваякоў. Пра гэта прачуў упаўнаважаны райкома Барташ. І загадаў старшыні сельсавета сабраць надзейных узброеных людзей і злавіць уцекача-бедалагу жывым ці мёртвым. Гэтую аперацыю ўзначаліў сам. І забіў яго, калі той нібыта кінуўся ўцякаць...

— А яго, гэтага Барташа, хоць судзілі? — нейкім асіплым голасам спытаў Чарот.

— Ніхто яго не судзіў, — перахапіла мой адказ гаспадыня.

— Як ездзіў верхам на кані, так і ездзіць.

...Уначы Чарот дрэнна спаў. Часта варочаўся, цяжка ўздыхаў, бубніў нешта сабе пад нос. А часам нават голасна спрачаўся з кімсьці. Размахваў рукамі. Калі раніцай я асцярожна сказаў яму пра неспакойны сон, ён прызнаўся, што спіць часта дужа неспакойна. Яго мучаюць усялякія кашмары. І сёння на яго напалі бандыты. Ледзь адбіўся. Адзін бандыт быў падобны на Барташа.

Пасля снедання мы паспяшаліся ў сельсавет. Перад дзвярыма стаяў запрэжаны ў вазок сівы конь. Старшыня Мацвіевіч чакаў нас. Яны ўладкаваліся на задняе сядзенне, а я на пярэдняе. Праехаўшы з кіламетр, я адчуў, як мерзнуць ногі, бо абутак у мяне быў не па халоднай зіме — звычайныя чаравікі. Каб сагрэцца, вымушаны быў бегчы ўслед за санямі аж, бадай, да самой вёскі Морачы. Тутэйшыя сяляне-аднаасобнікі, па сцвярджэнні старшыні, злосна не выконвалі льнонарыхтоўкі, праяўлялі сабатаж.

Мы аб'ехалі, бадай, усю вёску, пабывалі амаль ва ўсіх хатах. І нідзе не выявілі лішкаў лёну. Толькі на адным хутары ў гумне знайшлі цэлы трысцен ільнотрасты. Старшыня склаў акт і загадаў неадкладна гаспадару адвезці яе на нарыхтоўчы пункт.

Пад вечар мы, стомленыя і галодныя, вярнуліся ў сельсавет. Старшыня прапанаваў Чароту пайсці з ім паабедаць. Ён падзякаваў і сказаў, што пойдзе да мяне, чаму я дужа абрадаваўся.

**Пасля абеду, калі Чарот сядзеў на лаве ля акна і праглядаў газету «Беларуская вёска», я дастаў з шуфлядкі сшытак са сваімі творамі і, адчуваючы, як моцна забілася сэрца ад хвалявання, наблізіўся да паэта. Пачакаў, пакуль ён зверне на мяне ўвагу. І ён звярнуў. Паклаўшы газету на стол, спытаў, што ў мяне за сшытак. Я сказаў, што даўно пішу вершы, для сябе, і папрасіў, каб ён пачытаў хоць асобныя і зрабіў заўвагі. Ён узяў сшытак і пачаў гартаць.**

**— Паглядзім, што вы тут напісалі.**

**Каб схаваць хваляванне і не перашкаджаць, я накінуў на плечы кажушок, узяў сякеру і выйшаў у павець, пачаў калоць дровы. І так заюшыўся, што не пачуў, як мяне кліча госць. Калі зайшлі ў хату, Чарот загаварыў:**

**— Ну, што ж, прачытаў бегла вашы вершы. І скажу: не дрэнна пішаце. Асобныя можна друкаваць.**

**— Можна?! — выгукнуў я ад радасці.**

**— Можна. І трэба. Асабліва спадабаўся верш «Канец зімы». Раю паслаць у газету. Упэўнены, надрукуюць.**

Як і ў мінулую ноч, ён спаў неспакойна, трызніў, варочаўся з боку на бок.

Раніцою накіраваліся ў сельсавет, каб зноў паехаць па хутарах. Па дарозе ён параіў мне пайсці ў школу.

— Ваш абавязак вучыць дзяцей, а не шукаць па закутках лён. Мы са старшынёй сельсавета самі ўправімся з гэтымі нарыхтоўкамі.

Ён прыйшоў, калі ўжо сцямнела. Твар быў стомлены, учарнелы. Ад ежы адмовіўся. Сказаў: «Людзі добрыя накармілі». Моўчкі курыў, пакашліваючы. Калі гаспадыня пайшла дагледзець жывёлу, прызнаўся мне, што моцна паспрачаўся з Барташам, які арыштаваў незаконна селяніна-аднаасобніка і прывёў яго ў сельсавет, адкуль яго пагналі ў раён, каб судзіць за невыкананне плана па нарыхтоўках ільну.

— Я сказаў гэтаму ўпаўнаважанаму райкома, што яго трэба самога судзіць за здзекі над простымі, невінаватымі людзьмі. Замест таго, каб прызнаць свае памылкі, ён пагразіўся напісаць на мяне скаргу ў ЦК за тое, што нібыта абараняю кулакоў і падкулачнікаў. Яшчэ раз пераканаўся, што ад такога нягодніка з партбілетам у кішэні можна ўсяго чакаць... Памаўчаўшы, дадаў: — Не хацеў гаварыць, але бачу, ты свой хлопец і рашыў сказаць: і ў нас, у Мінску, ёсць такія ж Барташы. Яны таксама здзекуюцца з людзей, без суда і следства піхаюць у турму... І нашага брата, пісьменніка, не шкадуюць.

— І пісьменнікаў? — здзівіўся я.

— І пісьменнікаў, і вучоных. Я паспрабаваў абараніць аднаго. Даўно ведаю яго. Надта сумленны чалавек. Дык мяне, ведаеце, запрасілі ў камітэт дзяржаўнай бяспекі і сам начальнік Берман павадзіў пальцам вакол майго носу, пагразіў, каб маўчаў і не рыпаўся... А хіба я магу маўчаць?...

Назаўтра раніцою Міхась Чарот пакінуў маю кватэру. Дзякаваў шчыра за гасціннасць. Запрасіў мяне і гаспадыню прыехаць у Мінск да яго ў госці. Пакінуў адрас...

Калі я паступіў на вучобу ў Мінскі камуністычны інстытут журналістыкі, мне неаднойчы карцела зайсці да знакамітага паэта. Але ўсё неяк саромеўся. Толькі аднойчы сустрэў яго на вуліцы Энгельса. Ён адразу, пазнаўшы мяне, стаў запрашаць да сябе. Я спяшаўся на камсамольскі сход. Паабяцаў зайсці ў другі дзень. Аднойчы наважыўся і зайшоў. Але дома яго не застаў. А праз нейкі час пачуў, што Чарота арыштавалі як ворага народа...

**Сяргей СВІРЫДАЎ.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# А ПРОБАШЧ ТУТЭЙШЫ...

Падчас нядаўняй пілігрымкі мне разам з іншымі вернікамі давялося наведаць Будслаў. Цудадзейная Маці Божая будслаўская ўжо не адно стагоддзе збірае вакол сябе тысячы паломнікаў. Але святочны настрой у нас быў сапсаваны, і вось чаму: сустрэў нас каля касцёла ягоны пробашч, распавёў гісторыю мястэчка і касцёла ды паміж іншым сцвердзіў, што ўсе, маўляў, тут палякі, а тэрыторыя гэта, на вялікі жаль, знаходзіцца пад Беларуссю, акупаваная. Так вось, не больш і не менш. Кажа пробашч, што ў будучым мяркуе зрабіць тут цэнтр каталіцызму. Будуць над касцёлам польскі ды ватыканскі сцягі лунаць, а недзе воддаль — беларускі, бо хочаш не хочаш, але мусіш уладам (акупацыйным, зразумела) падпарадкоўвацца.

Ці з Польшчы той пробашч? Дзе там, мясцовы, і дзяды і прадзеды адсюль. Хай пан пробашч па нацыянальнасці паляк, але ж трэба паважаць народ, на зямлі якога жывеш, на зямлі якога жылі твае продкі. А калі дрэнна пад акупацыяй, дык можна жыць і на радзіме, г. зн. у Польшчы, хто ж забараняе?

Колькі можна рваць на шматкі нашу радзіму? Як каталік — так і паляк, а як праваслаўны — дык ужо і рускі. Дзе яшчэ такое ўбачыш? Толькі ў нас, на Беларусі, бо самі мы забыліся на сваю мову, выракліся сваіх каранёў. Вось намі і патураюць.

Будзе ў Будславе цэнтр духоўнасці, цэнтр культуры, ды толькі які? Спяваюць старэнькія бабулькі ў тамтэйшым касцёле пад арган па-польску, а выйшаўшы з касцёла, мовяць па-беларуску. І так ці не паўсюль.

Кожны мае права маліцца на сваёй мове. Але нельга, каб вера рабіла нас чужынцамі на сваёй зямлі. **Ірына КОВАЛЬ.**
г. Мінск.

**АБ'ЯВЫ**



**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Сцяпану Лаўшуку з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці ЖОНКІ.**

